# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №36 (157) 27 СЬНЕЖНЯ 1999 г.

## Калядны зварот да суайчыньнікаў Старшыні Рады БНР спн.Івонкі Сурвіллы



Фота Дзяніса Раманюка

Дарагія суродзічы!

Віншую вас з Каляднымі сьвятамі і з Новым 2000-м годам. Жадаю вам шчасьця, здароўя і дабрабыту.

Цяжка, аднак, як гэтага вымагае традыцыя, жадаць вясёлых сьвятаў, калі будучыня вашая робіцца з кожным днём больш праблематычнай. Дамова з Масквой, хаця яна і незаконная, ды падпісаў яе ўжо не прэзыдэнт, якому вы даручылі свой лёс, а чалавек, які здрадзіў ваш давер, мяне асабліва трывожыць. Яна дазволіць Маскве адкрыта акупаваць нашую краіну, ствараць свае вайсковыя базы ды засяляць яе чужынцамі, варожымі да ўсяго беларускага. Нават у выпадку вольных выбараў яны будуць галасаваць не за Беларусь, не за вашыя інтарэсы, а за вашае паняволеньне, за інтарэсы вашага суседа.

Магчыма і непрыстойна прыпамінаць у гэты сьвяточны пэрыяд так прыкрую рэчаіснасьць, але вашая доля, дарагія суродзічы, ваш дабрабыт, вашая жыцьцяздольнасьць увесь час у маіх думках.

Моцна прашу вас: не дапусьцеце ўзурпатара і яго кагэбісцкага акружэньня пераварыць незалежную Рэспубліку Беларусь у расейскую правінцыю, а то і ў наступную Чачэнію; не дапусьцеце чужынцаў адабраць ад вас ваш беларускі дом, бо толькі калі вы будзеце гаспадарамі ў сваім доме, асягнеце той дабрабыт, аб якім вы марыце.

Дык жадаю вам, дарагія суродзічы, мужнасьці ды адвагі ў змаганьні за лепшую долю.

Калядныя і навагоднія сьвяты ёсьць ва ўсім сьвеце часам пераходу, пачынаньня новых надзеяў. Дай Божа, каб мы ўсе ня толькі гэта адчулі на парозе 2000-га году, але і ўзялі рашэньне да гэтага спрычыніцца.

*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла.*
*24 сьнежня 1999 году, Атава*



Фота IREX-ProMedia

*Ціхі вецер сьцярушвае сьнежны пылок —*
*Дзяцел хвою дзяўбе у рытмічных паўторах.*
*І кунежная сьвежасьць кранула чало,*
*Быццам блізка дыхнула Балтыйскае мора.*
*Я — сучасьніца нашых вячыстых падзей —*
*Удыхаю паветра вяршынь незамглёных.*
*Лепш, чым дома, ня можа быць сэрцу нідзе.*
*З Новым годам, краіна мая, з новым плёнам.*

*Яўгенія Пфляўмбаўм*

# З Новым Тысячагодам!

Шмат для каго ў сьвеце Новы год — самае ўлюбёнае сьвята. Іншыя "чырвоныя дні" календара, у тым ліку Каляды, — гэта рэгулярнае ўспамінаньне і ўшанаваньне пэўнай падзеі ці, калі йдзецца пра сьвяты паганскія, — прыродных зьменаў. Новы год, наадварот, не зьвязаны зь ніякай рэальнай ці мітычнай падзеяй ані ў сьвеце людзей, ані ў сьвеце прыроды. Гэтае сьвята адмыслова прыдуманае для таго, каб сьвяткаваць, і магло б, па сутнасьці, адзначацца ў які-любя дзень. Таму Новы год — адзінае *сьвята ўвогуле*, сьвята як такое.

Проста сьвядомасьць чалавека ня можа даць сабе рады зь бясконцасьцю часу. У гэтай бясконцай плыні розум патрабуе нейкага апірышча. Таму мы разьбіваем час на кавалкі, пачатак і канец якіх вызначаюцца ў пэўным сэнсе адвольна, надаем гэтым кавалкам нумары і назвы. Каб на дыскету можна было нешта запісаць, а тады прачытаць, трэба фарматаваньне — разьбіцьцё на сэктары і ячэйкі. Гэтаксама і людзям трэба дні, месяцы, гады, стагодзьдзі, каб можна было згадваць падзеі мінулыя і праектаваць падзеі будучыя. Каляндар — фарматаваньне памяці чалавека і чалавецтва; успамінаючы і плянуючы, мы заўсёды зьвяртаемся да пэўнай ячэйкі часу ў нашым уяўленьні.

Пры канцы году чалавек звычайна аглядаецца назад — параўноўвае, успамінае, што зрабіў, што зьмянілася ў ягоным жыцьці. Цяпер канчаецца стагодзьдзе і тысячагодзьдзе. Гэта ўсе ведаюць, пра гэта шмат кажуць — і папросту няма як унікнуць думкі аб тым, што ў тысячагодзьдзя быў і пачатак, што было яно само. Адылі жыцьцё чалавека замалое, і, думаючы пра тысячагодзьдзе, ён ужо ня можа належаць толькі сабе самому і цікавіцца толькі собскім жыцьцём, ён непазьбежна і мацней чым калі пачуваецца часткай чалавецтва.

Сёлетні Новы год успрымаецца перадусім як сьвята чалавецтва і толькі ў другую чаргу як прыватная падзея.

**Алесь Пяткевіч**

### ад рэдакцыі

ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

З новага году «Наша Ніва» будзе выходзіць штотыдзень, а не чатыры разы на месяц, як дагэтуль (гэта значыць, бяз пропускаў). Рэдакцыя мае шмат новых ідэяў і вельмі спадзяецца на супрацоўніцтва з Вамі.

З Калядамі, з Новым годам!

## З Каляднага пасланьня Апостальскага Візытатара для беларусаў айца Аляксандра Надсана

Днямі брытанскі міністар фінансаў зрабіў заяву, што ягоны ўрад у наступным годзе мае намер даруваць усе пазыкі, дадзеныя ў розныя часы найбольш адсталым эканамічна краінам. Ён выказаў спадзяваньне, што іншыя багатыя краіны зробяць тое самае.

Ня ведаю, ці ўсьведамляў сабе міністар, што сказанае ім было ў духу старазапаветнага юбілею. Згодна з Майсеевым законам кожны пяцідзясяты год быў годам юбілейным. Ягоны пачатак аб'яўляўся граньнем бараняга рогу, які па-гэбрайску называўся "йобэль" — адсюль назва "юбілей". Пра значэньне юбілейнага году напісана ў кнізе Сьвятарскай: "Асьвяціце пяцідзясяты год і аб'явіце свабоду на зямлі ўсім жыхарам яе; і гэта будзе для вас юбілей; хай кожны вернецца на сваё ўладаньне, кожны ў сваё племя" (Сьв.25-10).

Такім чынам юбілей — гэта час вызваленьня. У прыватнасьці, у гэты год касаваліся ўсе даўгі. Таксама, калі хто быў змушаны прадаць сваю зямлю, дык у юбілейны год яна зноў вярталася да яго. Калі ж хто меў няшчасьце за даўгі аддаць сябе і сваю сям'ю ў няволю, дык у юбілейны год ён і ўсе ягоныя зноў станавіліся вольнымі. Прычына тут ясная: зямля і ўсё ейнае багацьце належыць Богу, які даў яе чалавеку, каб той разумна карыстаўся ёю. Праз скасаваньне ўсіх старых даўгоў юбілей даваў людзям шанец пачаць жыцьцё нанова.

У пэўным сэнсе юбілей быў вобразам вызваленьня ўсяго роду людзкога праз прыйсьце на сьвет Ісуса Хрыста.

Мы ня можам нічога зрабіць зь фізычнымі зьменамі, якія прыносяць нам гады. Затое "рост у мудрасьці і ў ласцы ў Бога і людзей" залежыць у вялікай ступені ад нас. Так доўга, як мы жывем, мы маем магчымасьць стацца лепшымі або горшымі. Кажуць, што калі Леанарда да Вінчы маляваў сваю славутую Апошнюю Вячэру, адзін і той жа чалавек паслужыў яму мадэльлю для Хрыста і, пасьля некалькіх гадоў, для Юды.



На парозе 2000-га юбілейнага году ад прыйсьця на сьвет Хрыста, варта азірнуцца на пройдзены шлях як асабісты, так і ўсяго грамадзтва. Гісторыя, асабліва апошняга стагодзьдзя, не дае нам нагоды да вялікай радасьці ці гонару. Побач з тэхнічным прагрэсам мы былі сьведкамі маральнага ўпадку і зьдзекаў чалавека з чалавека. Мы бачым гэта і ў нашыя дні.

Ёсьць, аднак, і прамень надзеі. Хрыстос паказаў, што мы і наш лёс не абыякавы Богу. Ён ушанаваў нас, стаўшыся адным з нас. Гэта — аснова нашай людзкой годнасьці. Усьведамленьне гэтага змушае нас ставіцца з пашанаю да кожнага чалавека. З пашанаю прыйдзе ўсьведамленьне патрэбы "скасаваньня даўгоў", — прабачэньня і прымірэньня, без чаго ня можа быць сапраўднай свабоды. Народная мудрасьць кажа, што "забыць — гэта людзкое, прабачыць — Божае".

Вызваленьне, якое прынёс Хрыстос, адкрытае для ўсіх і ў наш дзень. Ад нас залежыць скарыстаць зь яго. Дык хай юбілейны год будзе для нас усіх пачаткам новага жыцьця: жыцьця дзяцей вялікай сям'і Божай, у якой нашым братам ёсьць сам Госпад Ісус Хрыстос, чыё нараджэньне сёньня радасна славім. Гэтага ўсяго жадаю вам, дарагія людзі, на пачатку гэтага новага, юбілейнага году.

*Апостальскі Візытатар для беларусаў грэка-каталікоў а. Аляксандар Надсан, Лёндан, Каляды 1999 году*

### Царква без патрыярха

Учора айцец Іван (Спасюк) урачыста высьвяціў першы камень, закладзены ў падмурак народнай беларускай праваслаўнай царквы пад Гародняю ў пасёлку Пагранічным. Усе тутэйшыя прыхаджане хочуць пабудаваць сваю царкву, над якой не стаяў бы ніякі маскоўскі патрыярх і мітрапаліт-трафарэт.

### Чыгірыха шукае адвакатаў па сьвеце



На Літву прыяжджала Чыгірыха, вярнулася толькі пад Сьвяты вечар. Сустракалася там з Альгірдасам Паўлаўскасам, былым генпракурорам і кандыдатам у прэзыдэнты ад лявіцы, які цяпер буйную адвакацкую кантору ўзначальвае. Надта яна прасіла Паўлаўскаса, каб ён прыехаў у Беларусь і выступіў абаронцам на працэсе Чыгіра. Бо суд ня даў, каб Чыгіра абаранялі Гары Паганяйла і Юры Карытка, адвакаты маскоўскай гільдыі, дзеля таго што ў Беларусі з Расеяй няма двухбаковай дамовы пра прававую дапамогу людзям, піша БелаПАН. А зь Літвою такая дамова ёсьць, дык не прыняць Паўлаўскаса ня змогуць. Паўлаўскас быццам бы вельмі хацеў бы, адно што пад вясну на Літве выбары ў Сэйм, дык ён будзе крыху заняты. Але калі ня ён, дык нехта зь ягонай канторы прыедзе і Чыгіра абароніць, паабяцаў ён. Чыгірыха прасіла 12 розных адвакатаў у Менску, каб узяліся абаранаць Чыгіра, але ўсе яны адмаўляліся — баяцца, што і ў іх пазабіраюць ліцэнзіі. Чыгірыха сама мужа абараняе, але для падстрахоўкі хоча наняць каго шчэ. 27 сьнежня суд не пачаўся, бо Вярхоўны Суд умяшаўся і адправіў справу на дасьледаваньне. Мабыць, сапраўды, як Чыгірыха кажа: «Справа рассыпецца пры аб'ектыўным і адкрытым судовым пасяджэньні» — вось і цягнуць гавэнду. АБСЭ сьлёзна абяцаецца, што і іхны чалавек будзе на судзе ад пачатку да канца сядзець.

### Дэнамінацыя

Лукашэнка, каб прыбраць Пагоню з усіх да рэшты беларускіх грошай, пастанавіў правесьці дэнамінацыю рублёў. Гэта азначае, што з купюраў папрыбіраюць па тры нулі. Са студзеня 2000 году побач са старымі коштамі, чорнымі, на цэтліках зьявяцца новыя — чырвоныя.

З гэтага ж месяца пэнсіі й заробкі будуць зьменшаныя на тры нулі.

Усё гэта робіцца, толькі каб людзям галовы тлуміць. Каб ня бачылі рэальных віноўнікаў гэткае сытуацыі, а бачылі адно свае кашалькі. Дзе ўсё адно замест грошай адны нулі лукашэнкаўскія застаюцца. А будучыня ў нас такая: яшчэ чатыры гады пройдуць — і зноў будзем нулі рэзаць...

Паводле інфармацыі мінстату за першыя два тыдні сьнежня спажывецкія цэны ў Беларусі выраслі ўжо на 7%.

Б.Т.

зь Берасьцейшчыны

## Адзін праведнік на тысячу

Вечарам у панядзелак 20 сьнежня ў Кобрыні адбылася незвычайная для мясцовага люду акцыя. А 18-й каля 15 чалавек выйшлі на цэнтральную вуліцу й запалілі сьвечкі ў знак пратэсту супраць аб'яднаньня з Расеяй. Адразу ж да іх сталі далучацца ўсё новыя людзі. Урэшце шэраг павялічыўся да 50 чалавек. І гэта хоць пра акцыю напярэд ніхто ня ведаў! Абсалютнай большасьцю ўдзельнікаў была моладзь. У Кобрыні жыве троху болей за 50 тысячаў.

Янка

## Не работал — денег нет!

Аб'ём сельгасвытворчасьці на Берасьцейшчыне сёлета скараціўся на 17%. Усё правільна — кармоў нарыхтавалі на 18% меней, як летась, віны й запазычанасьці гаспадарак складаюць пад 20 трыльёнаў рублёў, а сярэдні заробак у калгасах за 11 месяцаў складае 9,5 мільёнаў за месяц. Усё правільна — выбралі сабе маскалёва ўладу, цяпер хадзіце ў ёрмах.

зь беларускай Віленшчыны

## Фонду Гашкевіча ня стала

Фонд імя Іосіфа Гашкевіча на Астравеччыне перастаў існаваць. Прычына — няма грошай. Фонд утварыўся пад час перастройкі, калі ўпершыню супрацоўнікам японскай амбасады дазволілі прыехаць у Астравец і ўшанаваць магілу першага консула царскай Расеі ў Японіі Гашкевіча. Як высьветлілася, наш зямляк быў вельмі шанаваны праз японскі народ і зрабіў вельмі шмат для збліжэньня японцаў з эўрапейцамі. Мэтай фонду было дасьледаваньне жыцьця Гашкевіча, а таксама наладжваньне сувязяў паміж беларускім і японскім народамі. У той час адкрылі нават помнік І.Гашкевічу ў Астраўцы. Аднак у наш час усё заглохла, ня стала спонсараў, і ні дзяржавы, ні прыватных багатыроў няма. Да лепшых часоў.

## Бэнзін толькі за валюту

Хто ў Астраўцы машыны мае, той і цешыцца, і журыцца. Радуюцца, бо ўрэшце ў райцэнтры адкрылі аўтазапраўку, якую будавалі амаль два гады. А засмучаюцца аўтааматары, бо бэнзін будуць прадаваць толькі за валюту. Вось і чухаюць хлопцы галовы, дзе тыя даляры ўзяць.

Мар'ян Вянгроўскі

зь Віцебшчыны

## Міронствы

У сераду ўначы на ўезьдзе ў Лёзна на 30-мэтровай апоры электраперадачы невядомы змагар вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг. А ў цыдулцы, пішa нам Віцінфармбюро, напісаў: «Праклятым узурпатар! Табе не задушыць беларускага духу! А за свае злачынствы ты яшчэ адкажаш». І подпіс: «Мірон». Тымчасам невядомыя перайменавалі вуліцу Суворава ў Віцебску. Фарбаю паверх шыльдаў напісалі: «Узгорская» — гэтак даўней гэтая вуліца называлася.

з Падняпроўя

## Зачынілі беларускамоўную школу

У Бабруйску зачынілі адзіную на ўвесь 250-тысячны горад беларускамоўную школу. Яна існавала на базе СШ № 13. Не пратрымалася і 10 гадоў, не зрабіла ніводнага поўнага выпуску. Замест яе ўтварылі тут звычайную гімназію.

## Пасьвятуем, а тады папастуем

Лідэр суполкі Свабоднага прафсаюзу магілёўскага заводу «Зэніт» Аляксандар Каралёў абвесьціў, што з 5 студзеня ён пойдзе на бестэрміновую галадоўку, пратэстуючы супраць беззаконьня ўладаў ў дачыненьні да яго прафсаюзу — мы пра гэта ў тым нумары пісалі. У гутарцы Аляксандар паведаміў, што ягоная акцыя зьяўляецца часткай шырокага пляну барацьбы за правы прафсаюзу і рабочых. Аляксандар кажа, што ён і ягоныя калегі вядуць барацьбу не за кабінэт на заводзе. Ад непрызнаньня суполкі церпяць працоўныя. У прыватнасьці, не выконваецца калектыўная дамова. Сярэдні заробак павінен быць пад 30 мільёнаў, а плацяць 23 млн. Дагэтуль менавіта Свабодны прафсаюз супрацьстаяў адміністрацыі і, калі што, судзіўся з наймальнікам. Цяпер на заявы ў пракуратуры, выканкамы і іншыя дзяржструктуры проста не зважаюць альбо адпісваюцца — маўляў, прафсуполка незарэгістраваная. А не рэгіструюць, бо няма юрыдычнай адрэсы. Дырэкцыя ж на падставе гэтай незарэгістраванасьці не дае адрэсы і настойвае, каб прафсаюз пакінуў свой кабінэт.

Тое самае і на Магілёўскім аўтазаводзе. Тут на загад дырэктара Анатоля Лакізы на дзьверы прафсаюзнага пакою начапілі замок з тоўстым ланцугом. Узрушаныя рабочыя расьпілавалі той ланцуг, зьнялі замок і ўрачыста аднесьлі ў прыёмную дырэктара. Пазьней на прахадной сабралі несанкцыянаваны пікет з 30 чалавек. Міліцыя і хацела б яго спыніць, але збаялася сунуцца.

## Магілёў на скрыжаванні

«Кола сяброў» выдала фотаальбом «Магілёў на скрыжаваньні», складзены са старых здымкаў і здымкаў таго, што ад усяго засталося цяпер. Альбом будзе распаўсюджвацца сярод школаў і бібліятэк, яго атрымаюць настаўнікі гісторыі і краязнаўства. Можа, убачыўшы пры канцы стагодзьдзя сумны стан роднага гораду, людзі пажадаюць у новым тысячагодзьдзі інакш жыць, інакш ставіцца да народнай спадчыны.



Касьцёл Сьв.Станіслава, Магілёў

## Праблема-2000

Першымі ахвярамі кампутарнай праблемы-2000 сталі людзі ў чэргах за аўтобуснымі і чыгуначнымі квіткамі. На Магілёўскім аўтавакзале з 25 сьнежня квіткі прадаюць, выпісваючы ўручную, як за тымі саветамі. Гэта працягнецца да 10 студзеня наступнага году, пакуль штукары ня перанааладзяць абсталяваньне. Цэнтралізавана на такую ж мэтоду продажу перайшлі й на чыгунцы. Ёсьць нязручнасьці: калі дзякуючы аўтаматычнай сыстэме ў Магілёве можна было набыць квіток зь Менску ці іншага гораду куды толькі магчыма, дык цяпер часова гэтага ня будзе. Чыгуначнікі абяцаюць, што нязручнасьці й чэргі скончацца пасьля 15 студзеня. А пакуль віншуюць усіх з Новым годам.

Сымон Глазштэйн

з Панямоньня

## Выгналі за пісаньне на шкле

У Горадні Вадзіма Саранчукова, трэцьцякурсьніка юрфаку, паперлі з унівэрсытэту «за сыстэматычныя пропускі заняткаў». Хоць папярэджаньняў, вымоваў і заўваг яму раней не давалі, пішуць нам з «Ратушы». А ўся рэч у тым, што месяц таму Вадзіма затрымалі міліцыянты за «напісаньне на шкле гарадзкога тралейбуса супрацьпрэзыдэнцкага заклікy». Суд пакараў Вадзіма мінімальным заробкам за дробнае хуліганства, міліцыянты шчэ пнуліся давесьці, што сп.Саранчукоў працівіўся ім і лаяўся, але судзьдзя ня даў ім веры. А вось прафэсура — дала.

Б.Т.

з Полаччыны

## Інфармацыйная вайна ў Наваполацку

Старэйшая газэта ў Наваполацку — «Хімік». У 90-м годзе газэта здолела пазбыцца апекі ўладаў, і заснавальнікам «Хіміка» стаў калектыў рэдакцыі. Але і да вызваленьня з-пад кантролю газэта вызначалася лібэралізмам. Напрыклад, пры ёй працавала літаб'яднаньне «Крыніцы» на чале з Уладзімерам Арловым. У газэце друкавалі свае першыя творы Адам Глёбус і Ўладзімер Сьцяпан. Да сярэдзіны 90-х у «Хіміка» не было праблемаў са сваёй свабодай. Нават зьяўленьне канкурэнта — органу Наваполацкага выканкаму і гарсавету, «Новай газэты» — не паўплывала на папулярнасьць вэтэрана. «Новай газэце» ад пачатку была пастаўленая задача зрабіцца самым масавым пэрыядычным выданьнем рэгіёну. На выкананьне скіраваная праца як рэдакцыі, так і самога выканкаму. Але наклад «Хіміка» доўгі час быў у 2—3 разы вышэйшы за наклад «Новай газэты». Тады ў ход пайшлі розныя чыноўніцкія хітрыкі. Пачаліся суды, патрабаваньні вызваліць памяшканьне, іншыя бюракратычныя прыдумкі. Летась адбылася спроба аб'яднаць «Хімік» з «Новай газэтай» — супрацоўнікам незалежнага выданьня тлумачылі, што ў новых эканамічных варунках газэта ня выжыве, таму, маўляў, з гуманных меркаваньняў «Хіміку» і прапануюць перайсьці пад дах выканкаму. Але й гэтая езуіцкая спроба ня мела посьпеху. І вось у другой палове 99-га году «Новая газэта» здолела на 500 асобнікаў абысьці «Хімік», цяпер у «Новай газэты» 9000 асобнікаў, а ў «Хіміка» — 8500. Здаецца, у наваполацкім выканкаме можна спаць спакойна. Але тут здарылася неверагоднае. У ноч на 15 лістапада з рэдакцыі «Новай газэты» зьніклі выдавецкія кампутары. Намесьнік старшыні Наваполацкага гарвыканкаму Аляксандар Ніякоўскі выказаў думку, што гэты крадзёж мае палітычныя наступствы і працуе на руку тых, хто ўзурпаваў у горадзе сродкі масавай інфармацыі і вяшчае ад імя народу. Менавіта тады, калі «Новая газэта» абышла «Хімік» накладам, і быў нанесены злачынны ўдар. «Хімікаўцы» доўга не маглі адысьці ад шоку. Сёлета пажарныя своечасова патушылі падпаленыя дзьверы ў будынак рэдакцыі незалежнай газэты, але журналісты не апусьціліся да кан'юнктурных абвінавачаньняў. Гэтым разам трэ было адказаць. У нумары за 21 сьнежня быў надрукаваны ліст чытача, які абураўся закідамі намесьніка гарвыканкаму і, апавядаючы пра прымусовую падпіску, тлумачыў, якім чынам «Новая газэта» здолела абысьці «Хімік». Мясцовая прэса — сапраўднае залатое дно. Улады гэта ведаюць.

## Аўтар народнай песьні

19 сьнежня палачане адзначалі 80-годзьдзе кампазытара-песеньніка Міколы Пятрэнкі. Гэта быў, бадай, самы відны палачанін апошніх гадоў. У горадзе на Дзьвіне не адбывалася ніводнага культурнага мерапрыемства безь яго ўдзелу — асабістага або яго песень. За сваё жыцьцё выкладчык музыкі Полацкай пэдвучэльні напісаў іх пад 300. Самая вядомая — «Ручнікі». Яшчэ да выкананьня «Песьнярамі» «Ручнікі» сьпявалі па ўсёй Беларусі. Таму на першых кружэлках «Песьняроў» яна пазначалася народнай. Гэта пазьней разабраліся і выправілі памылку.

Мікола Пятрэнка быў апантаным чалавекам, да апошніх сваіх дзён (а памёр ён тры гады таму) пісаў песьні. Ганаровы грамадзянін Полацку, першы старшыня полацкай філіі ТБМ, аўтар і перакладчык на беларускую мову шматлікіх падручнікаў і навучальных дапаможнікаў.

Удзельнікі юбілейных мерапрыемстваў наведалі Лясныя могілкі, дзе пахаваны Пятрэнка, усклалі кветкі на магілу, сказалі ўрачыстыя словы. Потым у полацкім Цэнтры рамёстваў і нацыянальных культураў адбылася імпрэза, пад час якой нарадзілася ідэя правесьці ў Полацку музычны фэстываль імя Пятрэнкі.

Алесь Козік

менскія нетры

# ЛІНГВІСТЫЧНЫЯ ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ ПРАСПЭКТУ РАКАСОЎСКАГА

Шпацыры па менскіх вуліцах заўжды непазьбежна спалучаюцца з чытаньнем разнастайнае наслупна-насьценнае інфармацыі — шыльдаў, афішаў, улётак, аб'яваў, якім беларуска-расейскі білінгвізм надаў такую самабытнасьць і каларыт, што часам цяжка ўцяміць ня толькі на якой мове напісана, але і, уласна, што напісана. Развагі над генэзысам гэтае зьявы наводзяць адразу на дзьве думкі: або гэта — чарговая праява нядзейснасьці сыстэмы базавае адукацыі, або пацьверджаньне існаваньня нейкага таемнага таварыства, якое мае на мэце — шляхам стварэньня новае мовы — пакласьці край пакутліваму падзелу грамадзтва на «несьвядомых» — зь іх рускарускімі слоўнікамі ды славянскімі кінафэстывалямі — і «сьвядомых» — зь несупыннымі патрабаваньнямі эфірнага часу, пікетамі за мову ды мэтадычным захвочваньнем цераз газэты да ахвяраваньня грошай.

Так, скажам, лексэму *«прыпутнік»* (імярэк гастраноме на праспэкце Ракасоўскага, недалёка аўтавакзалу «Усходні») ніводзін тлумачальны слоўнік не падае, а асацыяцыі яна выклікае самыя шырокія — ад «спутніка» да «путаў» (якімі каню ногі блытаюць, каб ня ўцёк) — уявіце, які разлог для паэзіі і філязофіі! (Нагадаю, на аснове прадукаваньня новых словаў з агульнавядомых каранёў стваралася і эспэранта.) Клюб *«Косатка»*, які знаходзіцца зусім побач згаданага гастраному, дазваляе меркаваць, што матэрыялам для навамовы зьяўляецца ня толькі беларуская, але і, заканамерна, расейская мова. (Ня трэба мець адмысловае іхтыялягічнае адукацыі, каб ведаць, што слова «касатка» — нават па-расейску — пішацца праз «а»). Вельмі шырока практыкуецца таксама і перастаноўка літараў — так, на вялізным рэклямным шчыце, насупраць згаданых вышэй аб'ектаў, бліжэй да аўтапарку, доўгі час сьвяціўся надпіс «ОстороНЖо, дети!», выклікаючы проста шквальныя філялягічныя дыскусіі ў тралейбусах блізкіх маршрутаў.

Нягледзячы на тое, што зьява гэтая ўжо даволі звыклая для менчукоў, яна чамусьці не выклікае ўхвалення ды захапленьня — належнага ёй хаця б таму, што яна можа дапамагчы «манкуртам» і «адраджэнцам» супыніць прыцэльнае пляваньне адзін на аднаго, каб разам, рука аб руку, працаваць над стварэньнем новае мовы, пра неабходнасьць якой яшчэ калі пісаў Джордж Оруэл.




Фота Анатоля Клешчука

Андрэй Скурко

Пачнем з гісторыі. На самай мяжы стагодзьдзяў, у 1900 годзе, памірае Францішак Багушэвіч. Гэта ён канчаткова замацаваў за краінай, нацыяй і мовай назву *Беларусь* і заклікаў беларусаў у сьвяты паход:

*Прэч бутэлькі, люлькі, карты!*
*Марна траціць час ня варта.*
*Хай жывыя рушаць з кіем*
*У сьвяты паход!*

# УРОКІ СЬВЯТЫХ ПАХОДАЎ

## У XX ст. беларусы двойчы спатыкнуліся аб уласную дзяржаўнасьць

**Сёньняшні нумар «НН» апошні ў гэтым годзе, а таксама ў стагодзьдзі і ў тысячагодзьдзі, якое пачыналася з адзінкі. І гэта ня простая перамена лічбаў. Неўзабаве мы ўсе ператворымся ў людзей «зь мінулага стагодзьдзя» і міжволі станем ягоным увасабленьнем — жывымі, так бы мовіць, дакумэнтамі гісторыі. Чым стала яно для нас і якімі будзем мы — выхадцы зь яго — у вачох наступнікаў?**

Так пачынаецца стагодзьдзе, наш сьвяты паход, наша нацыянальна-культурнае адраджэньне.

Нехта жартам параўнаў расейскія лёсавызначальныя пытаньні «Что делать?» і «Кто виноват?» зь беларускім «А хто там ідзе?», якое прыдумаў Купала.

Паход пачынальнікаў быў скіраваны ў гушчыні акадэмічнай навукі і ў родную вёску. Рамантыкі мараць пра адраджэньне разам зь літоўцамі Вялікага Княства Літоўскага (1915). Пра сваю ўласную, беларускую незалежную дзяржаву яшчэ не гаворыць ніхто. Аж да самага 1917 году, калі прыйшло нечаканае ўсьведамленьне. Тады раптам, нібы пярун сярод яснага неба (а можа быць, гэта быў усяго толькі прыклад літоўскіх і ўкраінскіх калегаў), беларускіх адраджэнцаў азорвае ідэя незалежнасьці. Спачатку, праўда, кажуць толькі пра аўтаномію ў складзе Расейскай імпэрыі, а ўжо ў 1918-м абвяшчаюць БНР. Ідэя настолькі фантастычная і фэерычная, што дух захоплівае. Дзяржава! — вось чаго захацелася беларусам. І так сталася.

Яны былі настолькі прыгаломшаныя гэтым, што амаль не заўважылі, як БНР зьмянілася на БССР. Яны працягвалі верыць у яе нават калі яна стала савецкай, калі яна перанішчыла іх дашчэнту ў Курапатах, калі мусілі ўсхваляць Сталіна — усё дзеля яе. Бязьмежная вера ў яе перадалася іхным наступнікам, якіх дзяржава ўжо не забівала, а, зьмяніўшы тактыку, прыкормлівала ля так званых кармушак. Гэтыя яшчэ ў большай ступені былі загіпнатызаваныя сваёй нацыянальнай дзяржавай. Ажно пакуль не заўважылі, што прападае нацыя і зьнікае з ужытку мова, самое жыцьцё русіфікуецца, асымілюецца. Але было позна. І так мінула XX стагодзьдзе.

Гісторыя зь ягонага пачатку з дакладнасьцю паўтарылася ў канцы стагодзьдзя. Дата адліку на гэты раз — 1984 год. Памірае Ўладзімер Караткевіч. Гэта ён сфармаваў рамантычны вобраз Беларусі і яе слаўнай мінуўшчыны, заклікаў да вывучэньня гісторыі і адраджэньня мовы.

*Ён сказаў нам: унукі Скарыны,*
*Дзе ваш гонар, моц і краса,*



*Ёсьць у вас, як у іншых, сьвятыня,*
*Не давайце сьвятыні псам.*

Пачынаецца нацыянальна-культурнае адраджэньне найноўшага часу. Паход у гушчыні акадэмічнай навукі і ў родную вёску. Рамантыкі мараць пра адраджэньне разам зь літоўцамі і ўкраінцамі Вялікага Княства Літоўскага ў выглядзе балтыйска-чарнаморскага калектару. Пра сваю незалежную дзяржаву не гаворыць пакуль ніхто. Яшчэ ня верыцца. Нават БНФ пакуль створаны дзеля таго, каб падтрымаць «перастройку», разам зь «лепшымі сіламі КПСС». І так аж да пачатку 90-х. Тады раптам, нібы пярун сярод яснага неба (а можа быць, гэта быў усяго толькі прыклад літоўскіх і ўкраінскіх калегаў), беларускіх адраджэнцаў азорвае ідэя незалежнасьці. І вось у 91-м абвяшчаюць РБ. Ідэя настолькі фантастычная і фэерычная, што дух захоплівае. Дзяржава! — вось чаго захацелася беларусам. І так сталася.

Дзяржава мусіла наладзіць адукацыю на роднай мове, накарміць пісьменьнікаў і мастакоў, надрукаваць бясконцую колькасьць кніжак... Ды вось незадача. Штосьці зноў не спрацоўвае ў гэтым мэханізме. Свая нацыянальная дзяржава выганяе родную мову са школаў, урэзвае наклады беларускіх кніжак, раздае папярэджаньні газэтам, схіляе да эміграцыі найвялікшых культурных аўтарытэтаў... Чарговы сьвяты паход сканчаецца горкім Быкаўскім вырокам — «Пахаджане».

Выглядае, што мы так нічога і не прыдбалі пасьля Багушэвіча, найперш — ніякіх гарантыяў. Вы скажаце, цэлая культура? А ці будзе яна заўтра каму-небудзь патрэбная? Вы скажаце, усё ж такі свая дзяржава. А іншыя кажуць, што гэта ўсяго толькі адмывачная машына для грошай расейскіх алігархаў, якая марудна ўцягваецца, усмоктваецца, інтэгруецца ў вялікае цела Расеі.

Што да культуры, дык няўзброеным вокам відаць руіны культурнай герархіі, створанай за савецкім часам, інэрцыйныя парэшткі крытыкі, якая заняпала яшчэ да таго, як пасьпела перааацаніць новаадкрытыя здабыткі забароненых або эміграцыйных творцаў. І тая хваля новае паэзіі, што пачалася была напрыканцы 80-х і выконвалася бардамі ды рокерамі, заняпала. Як сказаў Адам Глёбус, «паэзія пакінула мяне»...

Словам, з набыткамі ёсьць праблемы. Бо самыя выдатныя шэдэўры вымагаюць культывацыі, жывога культурнага працэсу, які ў нашых стэрэатыпах мусіць наладжваць яна, дзяржава ў абліччы мінкульту, мінасьветы і іншых мінаў. Як і напачатку стагодзьдзя, сёньня жыве тэатар і жыве асьветніцкая літаратура разам зь перакладамі. Але ў цэлым тэндэнцыя паўтарыць савецкую гісторыю культуры ці, дакладней, імітацыю культуры ў якой бы там ні было форме застаецца. І будзе заставацца датуль, пакуль творцы ня зьменяць свой погляд і абсалютны спадзеў на дзяржаву, пакуль не паспрабуюць засвоіць урокі сьвятых паходаў дваццатага стагодзьдзя.

Відавочна, прычыны трэба шукаць у параўнаньнях. Посткамуністычныя культуры цэнтральнай Эўропы выйшлі зусім не зь дзяржаўнікаў, а наадварот — з дысэнту, з эміграцыі, часам — з турмаў, як Гавэл або Міхнік. Яны ніколі не патрабавалі дабротных ганарарыяў у дзяржкамдруку. Затое менавіта яны, менавіта такая інтэлігенцыя, сталася гарантыяй для сваіх нацыяў, моваў, а ў выніку і дзяржаваў. Гэта яны дзяржаву трымаюць, а не яна іх. Гавэл — прэзыдэнт краіны, Міхнік — рэдактар найбуйнейшай у краіне газэты. (Тут варта згадаць пашыраны стэрэатып пра тое, што ў Беларусі за саветамі дысэнту не было і «ў стол» ніхто не пісаў. За рэдкім выключэньнем, гэта — праўда.)

Каб лепей адчуць розьніцу, прывяду прыклад нашага Саюзу пісьменьнікаў. Старшыня ягоны Ўладзімер Някляеў нядаўна сказаў, што СП быў створаны пры Сталіне як частка глябальнай рэпрэсіўнай машыны, што «спэцыялізавалася» на вольналюбівых пісьменьніках — пажырала іх. Тое самае вам скажуць і іншыя члены СП. Але ніхто зь іх з СП ня выйшаў. І прычына тут, думаю, ня столькі ў падкормцы, якая сёньня моцна аскудзела, колькі ў тым глыбокім гіпнозе нацыянальнае дзяржавы, на які беларусы купіліся другі раз за стагодзьдзе. З аднолькавым вынікам.

А колькі неаспрэчных тэзаў прагучала апошнім часам і працягвае гучаць на ўсялякіх канфэрэнцыях і мітынгах пра тое, што нацыянальная дзяржава — гэта найвялікшая каштоўнасьць, якую маюць беларусы і таму любым коштам трэба яе захоўваць і мацаваць. Гісторыя ведае прыклады, калі абсалютызацыя дзяржавы прыводзіла да ператварэньня яе ў малох для ўласнага народу. І ў нашым выпадку ў XX ст. таксама. Значыць, нешта тут не стасуецца зь лёгікай і з праўдай. Нездарма гэтак пашырыліся сёньня сярод моладзі анархісцкія або постмадэрністычныя настроі. Гэта як сьвядомы або несьвядомы пратэст супраць абсалютызацыі дзяржавы, якую багоміць інтэлігенцыя, у тым ліку і апазыцыйная.

Але ня будзе ў нас той сваёй дзяржавы. Нездарма пры ўсіх публічных марах пра яе яна застаецца ў нашых уяўленьнях абстракцыяй.

Натуральна, дзеля нармальнага жыцьця нацыі безь дзяржавы не абысьціся. Але ж сказана: не народ для ўраду... Таму не зь дзяржавы, не з абалонкі, не з паходу «в должность» пачынаецца адраджэньне. Верагодна, такі пачатак мусіць ляжаць у шматлікіх культурніцкіх чынах, самыя жывыя зь якіх, заўважце, робяцца сёньня безь ніякай падтрымкі дзяржавы, а часам і зь перашкодамі зь ейнага боку. І пры гэтым — робяцца.

Калі іх стане дастаткова шмат, калі яны набяруць дастатковую вагу, тады зь іх складзецца культура — гаспадыня дзяржавы, а не яе ўтрыманка і нявольніца адначасова. Цяжка прагназаваць на далёкі час, але менавіта незалежная культурніцкая дзейнасьць можа гарантаваць нас ад таго, каб зноў не спатыкнуцца аб уласную дзяржаву, што ўжо адбылося з намі двойчы ў мінулым дваццатым стагодзьдзі.

**Алесь Кебік**

# ХРЫСТОС І ЧАЧЭНЦЫ

У Рыме адкрываюць бронзавую браму Юбілею, у Бэтлееме мітусьлівыя палестынскія сьвятары цалуюць залатыя шаты былой убогай пячоры. А ў Грозным у бальніцы вымаюць зь дзіцячых целаў асколкі без наркозу, затое пад пільнымі вочкамі тэлевізійных камэраў.

Вайна ў Чачэніі — мост з XX стагодзьдзя ў XXI-е. Гэта такая татальная вайна, якіх, здавалася б, ужо ня мусіць быць на зямлі ці прынамсі ў Эўропе. Зруйнаваныя гарады, Грозны, у якім з паўмільёна засталося дваццаць тысячаў жыхароў, замест Чачэніі — 90% краіны — чорнае перамяшанае танкамі балота.

Моц цывілізацыі выяўляецца ў тым, як людзі ваююць. Сутыкненьне Расеі з Чачэніяй — гэта сутыкненьне Азіі з Эўропай.

Кадры чачэнскай кронікі красамоўныя. Расейскія салдаты: адны ў красоўках, другія ў кірзачах, няголеныя, у нейкіх хустках на галовах, у бруднай, мешкаватай форме. Выпраўляюцца па гарэлку са зброяй у руках. Вайсковая тактыка: акружэньні, аблогі, адмова ад паслуг дыпляматаў. Вайсковая стратэгія: вайна да перамогі, да поўнай акупацыі краіны, да поўнай зачысткі — настолькі ж невыканальная, наколькі бязглуздая і злачынная з гледзішча эўрапейскага гуманізму й маралі. Замест рэгулярнага войска — орды Сьвятой Русі. У гэтым драма расейцаў: яны ня могуць зразумець, у які жах кідаюць усе суседзкія і несуседзкія краіны іх таёжныя манеры. «І выкалупываў нажом з-пад пазуроў я кроў чужую», — расейская вайна, убачаная жыдоўскім паэтам зь беларускім прозьвішчам Слуцкі, застаецца якою была.

Расейцы гэтак сама ваявалі ў Беларусі ў «вялікую айчынную»: да апошняга чалавека, да апошняга камяня, свайго і чужога.

Зь іншага боку чачэнцы: усё максымальна рацыяналізавана, скіравана на тое, каб ахвяраў было як мага меней як сярод вайсковых, так і сярод цывільных. Вывезьлі з краіны ўсіх жыхароў, якіх маглі. Ня робяць зь іх жывога шчыту, як у блякадным Ленінградзе. Адкуль не пасьпелі вывезьці, тыя гарады здаюць. Абараняюць тое, што можна абараніць. Кантралююць тое, што можна кантраляваць. Пад снарадамі робяць пятнічны намаз. Забітых хаваюць, прыстасоўваюць вайсковыя ўмовы, каб захаваць максымум нармальнасьці жыцьця. Нават апалчэнцаў апранаюць ува ўніформу, калі іншага не патрабуюць партызанскія ўмовы барацьбы.

Бачачы расейцаў у Чачэніі, лёгка ўявіць сабе іх у Косаве ці Нямеччыне. Але лёгка ўявіць сабе і адказы немцаў ці касавараў на расейскае ўварваньне. У гэтым сэнсе вельмі слушна, што расейцы пачынаюць штурм цэнтру Грознага ў калядную ноч. Дата 25 сьнежня сапраўды нічога на значыць для Расеі.

Сьцень Карамазавых блудзіць па-пад брамамі замку-Эўропы. У замку пацепваюцца. Мы, жыхары пасаду, увогуле са страхам глядзіць у бок вялікай тайгі. Нашы сымпатыі ясна з кім. Група беларусаў выправілася паўз Каўкаскі хрыбет на дапамогу чачэнцаў — мы так і ня ведаем, як яны дасталіся да месца. Цяжка ўявіць, каб нейкія беларусы, нават тыя, што ані «ня выціснулі зь сябе па кроплі расейца», паехалі ваяваць на баку расейцаў.

Дзеля схалястычнай традыцыі мы звыклыя ўспрымаць Слова Хрыстова як звод указаньняў па ўпарадкаваньні нашага матар'яльнага і полавага жыцьця, а сябе — як абраны і апрыёры хрысьціянскі народ. Але хто яго ведае, хто на зямлі хрысьціянін? Ёсьць жа шанец, што хрысьціяне — ня тыя, што хрысьціцца. Тады папраўдзе «шчасьлівыя тыя, каго пераследуюць за праўду, бо іх ёсьць Валадарства нябеснае». Калі Хрыстос, «які прыйшоў у сьвет, і сьвет яго не пазнаў», зараз зноў ходзіць па зямлі, дык свой дзьвюхтысячны дзень нараджэньня ён сустрэ сярод самага хрысьціянскага народу сёньняшняй Эўропы — чачэнцаў.

**Барыс Тумар**



Фота АР

Кнут Волебэк, старшыня АБСЭ, у Чачэніі



Фота СІРА-Press

Грозны, сьнежань

# ПРАСТРЭЛЕНАЯ КУПЕЛЬ

***У інфармацыях з Чачэніі найперш распавядаюць пра баявыя дзеньні, пасьля — пра захопленыя паселішчы, нарэшце — пра лягеры ўцекачоў. Апошняя тэма ў падачы расейскіх тэлеканалаў выглядае адносна пасьпяхова. Жывуць у намётах, кормяць дзяцей, чакаюць ААНаўскіх гуманітарных канвояў. Хіба што лічбы ўражваюць — больш за 200 тысячаў чачэнскіх уцекачоў у Інгушэціі. Іншая статыстыка застаецца па-за кадрамі расейскіх рэпартажаў.***

***Паводле неафіцыйных зьвестак, на сёньняшні дзень у лягерах для чачэнскіх уцекачоў ад хваробаў і холаду памерла 260 дзяцей дашкольнага веку, 125 дзяцей да 15 гадоў і 380 чалавек старэйшых за 60 гадоў. Расейскія ўлады адмаўляюцца карміць уцекачоў.***

***Вось як гэтую сытуацыю камэнтуе Амінат САІЕВА, афіцыйны прадстаўнік Ічкерыі ў Літве, для літоўскай газэты «Respublika»:***

**— Калі Вы апошні раз былі на радзіме?**

— У верасьні 1997 году, адразу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Была падпісаная мірная дамова з Расеяй, людзі ажылі, у іх зьявіліся вялікія надзеі, вярнуліся дадому ўцекачы, пачалі будавацца. Гэта быў добры час. Я не чакала, што так хутка пачнецца гэтая другая жахлівая вайна.

**— Хто з Вашых блізкіх застаўся на радзіме?**

— Толькі нядаўна я даведалася, што мая 80-гадовая маці жывая. Яна жыве ў маленькай горнай вёсачцы, якую таксама абстрэльваюць і бамбяць. У Чачэніі ўся мая радня — брат, сястра, іхныя дзеці. Большасьць сваякоў у Джахаркале (Грозным), яны хаваюцца ў падвалах. Ня думаю, што галодныя, хворыя людзі ў падвалах ведалі нешта пра ўльтыматум, які аб'явілі расейцы.

**— Вы ніколі ня думалі, што калі б чачэнцы склалі зброю, дык у народу было б болей шанцаў уцалець, што выжыла б болей людзей?**

— Не, я так ня думаю. З надзейных крыніц мне вядома, што ў лягерах для чачэнскіх уцекачоў працуюць расейскія крымінальнікі, вызваленыя з турмаў, і турэмныя наглядальнікі. Усе яны вельмі жорсткія. Лягеры для ўцекачоў нічым не адрозьніваюцца ад канцэнтрацыйных, толькі крэматорыяў няма. Афіцэры, якія кіруюць у лягерах, пераканаными, што чым больш сурова абыходзіцца са сваякамі «чачэнскіх бандытаў»,



Фота "Respublika"

тым больш саступак будуць рабіць самі «бандыты». У гэтых лягерах умовы страшныя. Агрэсія нараджае толькі агрэсію. Дзеці, якія бачаць сёньня гэтую жорсткасьць, ніколі пра гэта не забудуць. Зь іхных душаў жорсткасьць ня сыдзе. У мінулым стагодзьдзі цар зьнішчыў 90 працэнтаў чачэнскага народу, на Захадзе інтэлектуалы са спачуваньнем казалі, што народ загінуў. Але мы адрадзіліся, захавалі сваю культуру, мову. У гісторыі ёсьць прыклады таго, як былі зьнішчаныя народы. Але я веру ў свой народ — ён ацалее.

**— Што канкрэтна ўдалося Вам зрабіць у Літве для Чачэніі?**

— Мая асноўная справа — зьбіраць інфармацыю для міжнародных арганізацыяў, парлямэнтарыяў, палітыкаў і прэсы. Другі кірунак маёй дзейнасьці — гуманітарны. Нядаўна ў Літве зьявіўся дабрачынны фонд «Дапамога дзецям Чачэніі», яго прэзыдэнт — кіраўнік парлямэнцкай камісіі па сувязях з Чачэніяй Альгірдас Эндрукайціс.

Хутка мы будзем сустракаць у Вільні 22 сіротаў з Чачэніі. Гэтыя дзеці ўжо двойчы гасьцявалі ў Літве ўлетку. У вайну яны выратаваліся цудам, дом, дзе яны жылі, быў спалены. Гэтых дзяцей прымуць у свае сем'і літоўцы, яны ўжо пасябравалі.

**— Якія думкі наведваюць Вас удалечыні ад родных, якім даводзіцца існаваць паміж жыцьцём і сьмерцю, тады як на вуліцах Вільні сьвецяцца калядныя елкі, пануе сьвяточны настрой?**

— Хоць мусульмане сустракаюць Новы год паводле свайго календара, мы любім гэтае сьвята і заўсёды адзначалі ў нашай сям'і. У двары дому вісела старая вялізная мядзяная балея, каб купаць немаўлятаў. Мама, калі гадзіньнік біў 12, выходзіла ў двор і 12 разоў біла качалкай у гэтую балею, а мы скокалі вакол. Калі ў 1997 годзе я пабывала дома, дык бачыла гэтую мядзяную купель, усю прабітую кулямі. Бачыла разрабаваны бацькоўскі дом. Сыходзячы, расейцы рабавалі ўсе дамы, забіралі ўсё самае лепшае. Спалілі нават нашы сямейныя альбомы, старыя чачэнскія кнігі, якіх ужо не дастаць. Так што бачыце, якія ў мяне думкі. Не сьвяточныя. А мары... Убачыць жывымі маму, брата, сястру, іхных дзяцей.

**Падрыхтаваў С.П.**

## лісты ў рэдакцыю

***

*Вось звычайная думка, якую чуеш у тэлевізары ледзь ня кожны дзень: калі ЗША бомбамі спрабавалі пазбавіць Мілошавіча магчымасьці праводзіць этнічныя чысткі ў Косаве, дык сусьветная супольнасьць з разуменьнем успрыняла гэта, але калі Расея спрабуе пазбавіць некаторых чачэнцаў магчымасьці выкрадаць людзей дзеля выкупу і займацца тэрарызмам, дык сустракае аднадушнае асуджэньне. У Расеі гэта называюць «падвойным стандартам» і лічаць прыкметай злосных намераў Захаду адносна Расеі.*

*Мне ж здаецца, што да падзеяў у Расеі на Захадзе падыходзяць зь меркамі, якія Захаду падказвае расейская клясычная літаратура. У прыватнасьці, чачэнскія падзеі яўна асацыююцца з раманам Дастаеўскага «Злачынства і кара». У ролі Раскольнікава выступае Расея, у вобразе старой — Чачэнія, а міжнародная супольнасьць уяўляецца судом, што пакараў Раскольнікава зь яго ж згоды. Пад час першай вайны на Захадзе маўчалі і чакалі, што сюжэт будзе адпаведны: хоць расейскія войскі і ўварвуцца ў Чачэнію, разбураць гарады, спаляць бібліятэкі; але потым Расея пакаецца ў сваіх грахах — гэта значыць, прызнае незалежнасьць Ічкерыі й дапаможа ёй у адбудове. Але Расея надта намагаецца даказаць на ўвесь сьвет сваю веліч — імкненьне, якое ў расейскай літаратуры ацэньвалі вельмі адмоўна (успомнім крытыку велічы Напалеона ў рамане «Вайна і мір»). Гэта і выклікала крытыку заходніх дзяржаваў.*

*Гэтак званы «падвойны стандарт» ёсьць проста вынікам павагі Захаду да расейскай культуры. Тое, што Захад падыходзіць да кожнай краіны з гледзішча яе ж культуры, і прывяло да таго, што літаратура, якой Расея так хваліцца й ганарыцца, абярнулася цяпер супраць самой Расеі. І гэта вельмі добра для суседніх з Расеяй меншых за яе краін, такіх як Беларусь, бо ў канфлікце паміж дзяржаўнымі інтарэсамі такой краіны і Расеі Захад будзе браць бок меншай краіны.*

**Сяргей Карбоўскі, Менск**

## весткі зь Літвы

### Літоўцы за французӑў

У Літве актывізаваўся гандаль новымі машынамі. Мусіць, у людзей зьявіліся грошы альбо прычынай сталі вялікія зьніжкі. Так ці інакш, а ўжо ў лістападзе ўсяго прадалі 526 новых легкавікоў. Прычым толькі 35 зь іх — расейскай маркі ВАЗ, астатнія заходнія. Лідэрам продажу стала француская фірма «Пэжо», якая апярэдзіла ранейшых фаварытаў — «Фальксваген» і «Шкоду». Што да самых машын, дык найлепей прадаваліся «Пэжо 206», «Шкода Фэліцыя» і «Фальксваген Гольф».

**Ліцьвін**

# НЯМІГА

Зьміцер БАРТОСІК

Самае моцнае ўражаньне Менск зрабіў на мяне ня нейкім маляўнічым кварталам ці будынкам, а звычайнай чорна-белай фатаграфіяй у юбілейным альбоме да 900-х угодкаў гораду. Сярод знаёмых сталінскіх краявідаў з ГУМамі ды КГБ там было і некалькі здымкаў старога Менску. Я доўга разглядаў адзін зь іх, намагаючыся прыпомніць адлюстраваную мясьціну. Зьняты з вышыні фрагмэнт гарадзкой забудовы нагадваў хутчэй старую Вільню — крывізною вулак, перапляценьнем прахадных двароў і душэўнай прыземленасьцю дамкоў. Але я дарэмна напружваў сваю памяць. Гэта была зьнесеная на пачатку семідзясятых вуліца Няміга.

Пасьля таго завочнага знаёмства я проста захварэў на тую, незнаёмую мне Нямігу. Я зайздросьціў тым, хто калісьці хадзіў па яе тратуарах, хто некалі нешта набыў у яе крамках, ці, як Адам Глёбус, шпурляў камяні ў яе ўжо нежывыя вокны 72-га году. Увесь сталінска-машэраўскі Менск не дараўноўваў Нямізе. Я гадзінамі прастойваў на мосьце каля Дому мадэляў і мадэляваў, якая б гэта вуліца магла быць сёньня. Каб пазбавіцца сваёй настальгіі, я пайшоў да старога менскага інтэлігента, паэта **Валянціна Тараса**. І вось што ён мне распавёў:

*«Гэта быў адзін з самых страшных раёнаў, у асноўным камяніцы: простыя, без аніякіх выгодаў, без архітэктурных упрыгожваньняў. Былі паўдраўляныя дамкі: першы паверх цагляны, другі — драўляны, невялічкія балькончыкі. Увогуле вельмі брудны й скучаны раён. Там у асноўным жыла габрэйская бедната. Там жылі й рамесьнікі габрэйскія, і ювэліры, і шаўцы, і краўцы, і цырульнікі. Былі і ўкрапленьні беларускага насельніцтва. Дарэчы, на Нямізе нарадзіўся й жыў паэт Сяргей Дзяргай.*

*У час вайны там зьявіліся розныя прыватныя прадпрыемствы. Усе габрэі пайшлі ў гета. Шмат прыватных рамесьнікаў Нямігі загрымела яшчэ ў трыццаць сёмым. Іх маёмасьць была канфіскаваная, і яны ўсе зь сем'ямі былі высланыя. У асноўным ва Ўзбэцкую, чамусьці, ССР. На бераг Аральскага мора. Але вось гэтая няміская традыцыя захавалася нібы ў паветры. І ў часе вайны там аднавіліся розныя прыватныя майстэрні. Нават існавала некалькі невялічкіх кавярняў.*

*Няміга была вельмі своеасаблівая, калярытная перш за ўсё сваім чалавечым асяродкам. Там жыцьцё літаральна віравала. І вось пасьля вайны пайшла страшэнная нівэліроўка ўсяго нашага, усяго самаснага. Разбураны горад, разбураныя вёскі, усё паспальвана. Загінуў сапраўды кожны чацьверты, калі ня кожны трэці. І панаехалі з Расеі спэцыялісты самых розных накірункаў і прафэсіяў. Інжынэры, будаўнікі, настаўнікі й шматлюднае чыноўніцтва. І пачалася нівэліроўка гораду. Менск адбудоўваўся адразу па клясычным імпэрскім сталінскім тыпе. Цяжкавагавыя гэтыя будыніны...*

*Калі зьнікла Няміга, зьнікла і вельмі цікавая, нейкая шчымлівая такая нота. З жыцьця гораду. Зь яго адметнасьці. Хоць ён ніколі вялікай прыгажосьцю не адрозьніваўся. Але ўсё ж такі былі нейкія акцэнты... менавіта нашы. Старога беларускага гораду. Дзе, на жаль, па аб'ектыўных прычынах было мала беларусаў. Было больш габрэяў, палякаў, расейцаў. І ў той жа час гэта ўсё ж быў беларускі горад. І вёска беларуская, і мястэчка прыўносілі сюды калярыт такой правінцыйнасьці, крыху вясковасьці. Але ў гэтым і была міласьць. Вось гэтай мэлёдыі. Прыемнасьць гэтай гарадзкой мэлёдыі».*

Я слухаў старога менчука й ніяк ня мог зразумець — чаму Няміга не была апетая ў вершах? Я гартаў у бібліятэках беларускія кніжкі канца шасьцідзясятых у надзеі пачуць голас калі не пратэсту, дык шкадаваньня. Але ніякай трывогі. Супакойваў Панчанка: *«Ты стаў ізноў відушчым, горад мой, І нам ня сорам Мінскам пахваліцца Ды хочацца часамі нахіліцца Над скруткам старажытнасьці сівой. А з даўніны нічога не чуваць — Вайна спаліла помнікі і кнігі, І берагоў няма на берагах Нямігі, І Мінск стары ўжо нельга і пазнаць»*. Філязофстваваў ураджэнец Нямігі Дзяргай: *«Праходжу вуліцамі, плошчамі: Мой родны Мінск... Здароў жывеш! Праводзіць шыны сьлед навошчаны Да раньняга дзяцінства меж. Іду на замчышча Нямігаю: Гляджу сюды, гляджу туды. У кожны кут знаёмы нігаю, Бубню сабе: «гады, гады...»* Асабліва



аптымістычна гучаў адзін абзац з кніжкі «Горад і годы», таксама прысьвечанай юбілею 67-га. Артыкул распавядаў пра пляны будучых стратаў:

*«Вялікае значэньне для разгрузкі руху ў цэнтры гораду мае арганізацыя пасажырскага руху па лініі, якая дубліруе Ленінскі праспэкт. Такім напрамкам з захаду, згодна з генэральным плянам, зьяўляецца ланцуг магістраляў у складзе вуліц Горкага, Нямігі, Мясьнікова, Люксэмбург, Савецкіх пагранічнікаў. Каб выкарыстаць гэтую лінію, неабходна пабудаваць мост церазъ Сьвіслач (ён ужо будуецца), пашырыць вуліцу Нямігу і пракласьці пуцеправод па вуліцы Люксэмбург».*

Адзіным творам, прысьвечаным лёсу вуліцы выглядаў артыкул у газэце «Правда» за 69-ы год Зянона Пазьняка й Лявона Баразны:

*«Мінск — горад з прамымі, шырокімі вуліцамі, з сучаснымі шматпавярховымі дамамі, зусім яшчэ юнымі паркамі й сквэрамі. Увесь ён так і сьвеціцца маладосьцю, хоць за плячыма ў яго ўжо дзевяць стагодзьдзяў і вялікая слаўная гісторыя. Каб хоць крышку пазнаёміцца зь ёю, трэба спусьціцца па Камсамольскай вуліцы ўніз...*

*Тут ціхія старыя вуліцы, нязвыкла вузкія й нават крыху цесныя. Асфальту няма. Замест яго — шліфаваны камень альбо проста брук. Тратуары аздобленыя пліткаю. Увечары спакойна гараць каваныя ліхтары ды мігціць сьветлавая рэкляма, запрашаючы зайсьці ва ўтульныя кавярні з самабытнымі й арыгінальнымі інтэр'ерамі. Адчыненыя дзьверы стылізаваных у нацыянальным стылі крамаў, дзе прадаюцца сувэніры, вырабы народных майстроў з жалеза, дрэва, скуры, непаўторныя й чыста «менскія». Побач — букіністычная кнігарня, музэй-майстэрня старажытнага рамяства, турыстычнае бюро, клюб фотааматараў...*

*Але ўсё гэта можа аказацца нязбытным. Стануць на месцы старых, з чырвонай цэглы дамкоў высокія прыгажуны са шкла й бэтону, і можа быць, з часам нават вуліцу пераймянуюць — назавуць Нямігу Сонечнай ці Паднябеснай... Прынамсі пакуль што архітэктары зь нерадзівасьцю канцылярыстаў закрэсьлілі нашую фантазію, якай мы толькі што падзяліліся».*

Уяўляю, якія паблажлівыя ўсьмешкі гэты артыкул мог выклікаць тады ў будаўнікоў сталіцы, якія плянавалі ўзьвесьці беларускае Чэлсі, «толькі лепш». Архітэктар Мусінскі так пра гэта й пісаў у часопісе «Строительство и Архитектура Белоруссии». Праўда, на вялікі жаль архітэктара, ягонаму праекту ня суджана было ажыцьцявіцца цалкам. «Чэлсі», толькі горш, паўстаў на заходнім баку вуліцы. А зь першымі павевамі дэмакратыі зьявілася і пытаньне пра далейшы лёс усходняга боку. На якім, згодна праекту Мусінскага, мусілі стаяць хмарачосы. Архітэктар няспраўджанага праекту дзяліўся сваімі думкамі:

*«Я не гісторык архітэктуры. Але нават ня будучы ім, магу зь вядомай ступеньню аб'ектыўнасьці меркаваць пра каштоўнасьці падманныя і сапраўдныя. Па-мойму, кожнаму непрадузятаму чалавеку ясна, што ўзводзіць у ранг гістарычных помнікаў старыя сараі, адна- і двухпавярховыя дамы, разьмешчаныя паміж вуліцамі Нямігай і Рэвалюцыйнай, проста несур'ёзна. Цяжка нават уявіць, як могуць гэтыя разваліны, у прамым і ўскосным сэнсе, гарманізаваць з сучасным комплексам заходняга боку».*

Мы часта спрачаемся наконт права Менску на сталічны статус. Самым моцным аргумэнтам на гэтае права, мне думаецца, ёсьць якраз Няміга. Апетая стагодзьдзі таму назад рэчка, пасьля вуліца, што вырасла ўздоўж яе берагоў, пасьля дамы, што паўтаралі зьвілістую плынь тае рэчкі, а сёньня — тое, што маем, і тое, пра што марыцца. Няміга на працягу сваёй гісторыі няўхільна адлюстроўвае ўяўленьні менчукоў аб прыгажосьці, аб тым, як павінна быць. Сёньня яна вось такая. Якою ёй быць заўтра?

Нядаўна прайшоў конкурс на пабудову шматузроўневай аўтастаянкі на ўсходнім баку насупраць Петрапаўлаўскага сабору. Але мяне гэта ня страшыць. За сваю гісторыю вуліца ня раз перабудоўвалася, і вельмі цяжка ўявіць, як праз сто ці пяцьдзясят гадоў менчукі паўстануць на абарону выдатнага помніка архітэктуры XX стагодзьдзя «Гандлёвы Дом на Нямізе» перад чарговай рэканструкцыяй. Калі ў горадзе зьявяцца менчукі, вуліца вернецца ў свае берагі. І слова «Няміга» ня будзе тады асацыявацца толькі з трагедыямі й стратамі. ■

Здымкі Зянона Пазьняка



# ВІТРЫНА ГОРАДУ

Калісьці паэт Адам Глёбус выказаў думку пра архітэктурную ці, дакладней, горадабудаўнічую зададзенасьць Менску, які арыентаваны толькі на ўсход. Маўляў, чалавек едзе з Масквы, шаша незаўважна ператвараецца ў гарадзкі праспэкт, абстаўлены дамамі ў духу сталінскага ампіру. Чалавек прамінае цэнтар гораду аж да плошчы Незалежнасьці і тут упіраецца ў тупік. Просты як струна шлях далей, на захад, распадаецца на мноства скрывуленых вулак, паваротаў і разгалінаваньняў. Каб не ўнікаць у гэтыя хітраспляценьні, нашаму падарожніку прасьцей зрабіць кола на плошчы Незалежнасьці і рушыць у адваротным накірунку — на Маскву. Гэткая тут выходзіць ці то пятля, ці то пастка.

Зьміцер Бартосік з гэтым пагадзіўся, але прапанаваў сваю вэрсію. У процівагу сталінскаму праспэкту ў Менску ёсьць вуліца Няміга, якая гэтаксама проста выводзіць на захад, а на ўсходнім кірунку ўпіраецца ў шматлікія разьезды. Калі гэта сапраўды так, дык, улічваючы ўзрост тысячагадовай Нямігі і паўвекавога сталінскага праспэкту, можна зрабіць выснову пра спрадвечную заходнюю, а ня ўсходнюю арыентацыю гораду.

Паводле Бартосіка Няміга — гэта вітрына менчукоў, іхных уяўленьняў пра гарадзкі ўтулак і прыгажосьць. Але вось тут і падымаецца ў душы хваля пратэсту. Хіба гэта мы? І хіба мы — такія? У бэтонных прыцемках гандлёвага дому ці на прыступках мэтро мы выяўляемся навонкі, на людзі то бязладным домам Мусінскага, то шматпавярховай стаянкай аўто. Тут ужо нішто не нагадвае пра заходнюю арыентацыю. Яшчэ адзін ускосны доказ — новы рускамоўны літаратурны часопіс «Немига», душа якога блукае ў маскоўскіх літарацкіх тусоўках. А яшчэ — нядобразычлівая штурханіна аўтобуснае паравалкі. Тут даўно няма цэльнага вобразу. Колькі трэба мазахістычнага жаданьня, каб прызнаць цяперашнюю Нямігу вітрынаю Менску. Цяжка нават уявіць сабе тых менчукоў — Дарыянаў Грэяў, калі ў іх такі «партрэт». Ці можа трэба ўспрымаць гэта як дрэнны прыклад, што вучыць нас, якімі ня варта быць?

Крывавыя берагі і бяссонныя ночы... Неяк занадта цяжка перакрыць або зьнівэляваць такое фатальнае наканаваньне. Адно можна сказаць з дакладнасьцю. Менавіта Няміга стане першай залатанай чорнай дзірой на целе адроджанае Беларусі. Калі, натуральна, зьявяцца на сьвет ня ўчарашнія мігранты, а новыя сапраўдныя менчукі. Калі гэта адбудзецца, мы і ўбачым адразу, ужо зь першага каменя, што будзе пакладзены не ў бязлад, а дзеля самай пачатковай гарманізацыі Нямігі. Гэта будзе азначаць, што ў горадзе і ў краіне зьявіліся гаспадары. Сачыце за зьменамі на Нямізе.

Сяргей Паўлоўскі



# ЮБІЛЕЙНЫЯ ДАТЫ ЮБІЛЕЙНАГА ГОДУ

**1975**

Першую прадукцыю даў Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод — той, што цяпер фактычна належыць расейскім алігархам. У камандавым першынстве фэхтавальнік С.Прыходзька — чэмпіён сьвету. «Беларусьфільм» пачынае выпуск мультыплікацыйных, навукова-папулярных і навучальных фільмаў.

Кастусь Цьвірка выдае кніжку «Слова пра Сыракомлю», Уладзімер Калесьнік — зборнік «Зорны сьпеў», Сьцяпан Александровіч — кнігу пра Аляксандра Незабытоўскага. Росквіт літаратуразнаўства. Габрыель Гарсія Маркес публікуе «Восень Патрыярха», а Хорхе Люіс Борхес — зборнік апавяданьняў «Кніга Пяску».

На свабоду выходзіць Цімох Вострыкаў: рагулёўскі парашутыст, схоплены ў 1952 адразу па дэсантаваньні на тэрыторыю БССР.



**1950**

У ЗША, Англіі, Францыі і Нямеччыне паўстаюць беларускія асяродкі. Ніхто не сумняваецца ў хуткім пачатку новай сусьветнай вайны. Гэтым разам супраць бальшавізму. На амэрыканскіх вайсковых базах рыхтуюцца дэсантнікі для закіду на тэрыторыю БССР. У Беларусі яшчэ ня ўсе сяляне загнаныя ў калгасы, яшчэ гойсаюць па лясох «недабітыя антысаветчыкі».

Уладзімер Дудзіцкі на дзесяць гадоў — галоўны рэдактар беларускай службы радыё «Свабода».

У Беларусі аднаўляюць разбураную вайной гаспадарку. МАЗ дае першую прадукцыю. Палонныя немцы будуюць узьлётна-пасадачную паласу ў камунізм — праспэкт Сталіна. На пяць гадоў у Марынскі лягер садзяць гісторыка Міколу Ўлашчыка. А Пятро Глебка робіцца членам-карэспандэнтам АН БССР. Янка Брыль выдае аповесьць «У Забалоцьці днее», Альбэр Камю — п'есу «Праведнікі» — пра расейскіх тэрарыстаў-эсэраў.

**1925**

На Бэрлінскай канфэрэнцыі вырашаюць спыніць дзейнасьць ураду БНР. У Заходняй Беларусі ў Вільні ствараюцца дзьве сацыялістычныя партыі-канкурэнткі: Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада і Беларускі Сялянскі Саюз. Першую забараняюць у 1927, другую — у 1929. Латыскія ўлады душаць беларускую дыяспару. Кастуся Езавітава разам зь іншымі прыцягваюць да суду за ўдзел у змове дзеля далучэньня Дзьвінску (Даўгаўпілсу) да БССР. Апраўданы «за недаказанасьцю».

Міхась Чарот на чатыры гады — галоўны рэдактар «Савецкай Беларусі», яшчэ беларускамоўнай і не «саліднай».

Выдаецца «Беларуска-расейскі слоўнік» М.Касьпяровіча. Якуб Колас публікуе паэму «Сымон-музыка», Аляксандар Шлюбскі — працу «Да гісторыі закрыцьця «Нашай Нівы».

У Заходняй Беларусі археоляг Ядкоўскі пачынае раскопы ў Ваўкавыску. Польскія ўлады арыштоўваюць Веру Харужую.

Нарадзіўся японскі пісьменьнік Юкіо Місіма.

**1900**

Улады прыкрываюць «Таварыства гомельскіх лекараў» — «з-за непрымальнага для ўладаў нацыянальнага складу таварыства — колькаснай перавагі габрэяў». Польскі этнограф і археоляг Зыгмунт Глёгер пачаў выдаваць «Encykłopedju Staropolsku», дзе патлумачыў значэньне беларускіх словаў «сябры» і «сяброўства». Генрык Сянкевіч дапісвае сваіх «Крыжакоў». Ствараецца камітэт аднаўленьня нясьвіскае «фары».

**1875**

У Нясьвіжы адчыняецца настаўніцкая сэмінарыя, у Вільні — жыдоўскі настаўніцкі інстытут, а ў вёсцы Хмелеве ля Жабінкі будуюць царкву-«мураўёўку» ў гонар Перамяненьня Госпаднягa.

**1850**

За «антыўрадавую дзейнасьць» зь Вільні ў Архангельскую губэрню высылаюць Рамуальда Друцкага-Падбярэскага, выдаўца і літаратара, які друкаваў творы беларускіх аўтараў і матар'ялы пра Беларусь, упершыню вызначыўшы характэрныя рысы беларускай народнасьці.

**1825**

Час вайскоўцаў-дзекабрыстаў. У Магілёве ствараецца філія «Паўночнага таварыства». У Літоўскім асобным корпусе, што базаваўся на тэрыторыі Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губэрняў, ствараецца «Таварыства вайсковых сяброў»... Усіх іх «накрылі» пад Новы год.

**1800**

Габрыэль Губэр — першы рэктар Пецярбурскага Езуіцкага калегіюму.

**1725**

Міхал Радзівіл Рыбанька (1702—1762) заручаецца з Францішкай Уршуляй Сангушкай, якая піша п'есы для фамільнага тэатру Радзівілаў у Нясьвіжы.

**1700**

Пачатак Паўночнай вайны, што будзе цягнуцца 21 год.

Нарадзіўся Ян Глаўбіц, сілескі архітэктар. Сярод ягоных працаў — адбудова Полацкай Сафіі, Фарны Касьцёл у Лідзе, касьцёл Кармэлітаў у Глыбокім.

Нарадзіўся Гершка Ляйбовіч, гравёр Нясьвіскай друкарні Радзівілаў.

**1650**

У Рэчы Паспалітай — грашовая рэформа. Зьяўляецца мядзяны солід. Гэтыя соліды (шэлягі) атрымалі назву «барацінкі» ад імя Ціта Ліўя Бараціні, арандатара манэтных двароў Кароны і Княства. Сам Бараціні добра нажыўся на інфляцыі. Краіна заваднёная некалькімі мільёнамі дробных мядзяных манэтак. Тыя соліды дагэтуль выкапваюць на беларускіх агародах разам з кулямі апошняй вайны.

**1625**

У Нясьвіжы мор забірае сотні жыцьцяў.

**1600**

Княства на чале з Жыгімонтам III Вазам пачынае вайну са Швэцыяй. Ідзе падрыхтоўка вайсковай і, адпаведна, эканамічнай моцы. Грошай бракуе. Эўропа заваленая няякаснымі манэтамі, таму генэральны прабіпэр Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў Каспар Рыткар выдае брашуру «Выява і ацэнка манэтаў усялякіх іншаземных».

Памірае Васіль Цяпінскі.

**1550**

Барбара Радзівіл карануецца ў Вільні на Вялікую Княгіню і Каралеву. Першай асобай краіны яна пабыла толькі год. У 1551 яе пахавалі. Сёньня ў Вільні можна пасядзець у цудоўнай блюзавай кавярні на вуліцы Барборы Радвілайтэ. У тым жа годзе Віленскі манэтны двор засвойвае новую прадукцыю — пенязь двайны. Пашыраецца Рэфармацыя.

У вёсцы Пянчын ля будучых Баранавічаў нарадзіўся Андрэй Рымша.

**1525**

Залаты век Беларусі. На пасадзе вялікага князя Літоўскага Жыгімонт І Стары. У Вільні Францішак Скарына выдае першую дакладна датаваную беларускую кнігу — «Апостал», у Кракаве Мікола Гусоўскі друкуе сваё «Жыцьцё і подзьвігі сьвятога Гіяцынта».

Кнігі — уцеха для адукаваных людзей. Але ж і ў «народу», то бок сялянаў, свая радасьць. З санкцыі вялікага князя ў Полацку сяляне, якія прыйшлі ў горад настала, на некалькі гадоў вызваляюцца ад падаткаў.

Глуск атрымаў прывілей праводзіць у сябе кірмашы.

**1500**

Чарговая — трохгадовая — вайна ВКЛ з Масковіяй. Гомель на тры гады патрапляе пад акупацыю.

З 1500 па 1525 крымскія татары зьдзейсьнілі дзесяць набегаў на ВКЛ.

**1425**

Росквіт Вялікага Княства. Вітаўт сапраўды робіцца Вялікім. Ідуць актыўныя перамовы з папскім прастолам аб каранаваньні Вітаўта на караля.

**1400**

Тэўтонскі ордэн не спыняе набегаў на Княства, таму праз год Вітаўт падпіша першую унію з палякамі — Віленска-Радамскую. Патрэбныя вайсковыя саюзьнікі, але яшчэ больш патрэбны мір. Вітаўт спрабуе наладзіць кантакты з Рыгай — цэнтрам Лівонскага ордэну. Вітаўт шле ліст да рыскага бурмістра з прапановамі аб вольным гандлі, каб купцы Рыгі і Полацку ўраўналіся ў сваіх правах і юрыдычных гарантыях. Лівонцы пагаджаюцца. Больш за тое, Полацку надаецца статус гандлёвага пасярэдніка між Рыгаю і Масквой з Ноўгарадам.

**1375**

Дзесятая за 100 гадоў аблога Горадні тэўтонскімі крыжакамі.

Узмацняецца паўночная мяжа ВКЛ. Як перасьцярога ад лівонскіх крыжакоў, будуецца Дзісенскі замак. Пазьней яго назавуць «Капец-гарадком», але пакуль у нямецкіх дакумэнтах ён фігуруе як «Новы рускі горад».

**1350**

Год нараджэньня Вітаўта Вялікага, сына Кейстута. Пра вялікіх пісаць проста. Вітаўт узначальваў Вялікае Княства Літоўскае ў 1392—1430 гадох. Паводле энцыкляпэдычнага даведніка «Беларусь» «пры В. ВКЛ дасягнула найбольшай магутнасьці».

**1325**

Два гады, як Вільня — сталіца Дзяржавы. Лічы, на 600 гадоў.

**1300**

У Чэхіі выбіваюць манэту «грош». У Беларусі яе называлі «грош праскі», «грош пляскаты», «грош шырокі». У XIV—XV ст. праскі грош складаў аснову фінансавай гаспадаркі ВКЛ. Свае «літоўскія» грошы пачалі друкаваць толькі ў 1535 годзе.

На чале гарадзенскага замку стаіць кашталян Давыд Гарадзенскі.

**1275**

У Вялікім Княстве гаспадарыць Трайдзень. «Сядзіць» у сталіцы Навагардку і ў Горадні. Палесьсе пад уладай галіцка-валынскіх князёў. У гэтым годзе гарадзенцы адбіваюць у галічанаў Дарагічын, вынішчаюць увесь гарнізон. У адказ князь Леў Галіцкі зьвяртаецца па дапамогу да татарскага хана Менгуцімера, які, апрача ўласнага войска, дае Льву Галіцкаму палкі трох сваіх паўднёва-рускіх васалаў. Да аб'яднаных галіцка-татарскіх войскаў далучаюцца пінчукі і тураўцы. Трайдзень не пасьпеў назьбіраць дастатковую колькасьць абаронцаў, таму паўднёвыя войскі захапілі Навагрудак, абрабавалі сам горад і ўсю навакольную зямлю. У іхных сілах было захапіць усё тагачаснае ВКЛ, але, не падзяліўшы здабычу, князі пасварыліся і разышліся...

Нарадзіўся Гедымін, заснавальнік Вільні (каля 1320) і зьбіральнік земляў ВКЛ ад Буга да Дняпра. Паводле розных крыніцаў Гедымін — альбо сын, альбо малодшы брат князя Віценя. Зрабіў дзяржаўным сымбалем свой родавы герб «Пагоню».

**1250**

Навагрудак — сталіца Княства Літоўскага. Праз два гады князь Міндаўг будзе каранаваны на караля.

**1125**

Памірае закляты вораг Полацкага княства Ўладзімер Манамах. Ягоны сын Вячаслаў Уладзімеравіч атрымаў у валадараньне Тураўскае княства. Праз 20 гадоў ён верне ў склад Тураўшчыны Берасьце, Дарагічын, Клечаск, Рагачоў і Чартарыйск, якія перад тым некалькі дзесяцігодзьдзяў належалі Кіеву.

**1050**

Час Усяслава Чарадзея. Полацкая дзяржава ўмацоўваецца. Напярэдадні захопы Пскову і Ноўгараду, бітва на Нямізе (1067)...

У сучасьнікаў полацкага князя не было сумневу ў ягоных чараўнічых здольнасьцях, таму ён быў вельмі папулярнай фігурай у абсягу «ад мора да мора». Адсюль — Чарадзей.

**1000**

Памерла Рагнеда. Гэтая сьмерць — нібы кропка ў гісторыі, зь якой пачалося існаваньне Беларусі ў «пісаным» выглядзе. Пахаваная ў Заслаўі.



Фота Раландаса Мацеяўскаса



Фота Раландаса Мацеяўскаса

Андрэй ШПУНТ

# ЧАЛАВЕК З ДЫЯМЭНТАВЫМ СЭРЦАМ,



Спаленьне герэтыкоў, рыціна XVII ст.

# АБО БЕРАСЬЦЕЙСКІ МОНСТАР

*De mortuis atque vivis neque bene, neque male, solum vere**

30 сакавіка 1689 г. у Варшаве на рынку Старога Мяста каралі за атэізм падсудка Казімера Лышчынскага. Рэч Паспалітая страсянулася ад жудасьці і агіды. У настаўленьне нашчадкам дом берасьцейскага бязбожніка-монстра зраўнялі зь зямлёй, а месца, дзе ён стаяў, павінна было застацца пусткаю на вечныя часы...

Але Лышчынскаму, асуджанаму на забыцьцё, наканавана было стаць нацыянальным героем савецкае Беларусі, галоўнай постацяй шматлікіх твораў як літаратуры, так і мастацтва, а літоўскі кампазытар Рачунас нават прысьвяціў вальнадумцу опэру «Горад Сонца».

У пару гістарычных пераацэнак узьнікае сумнеў: якім жа быў насамрэч гэты нашчадак дробнай берасьцейскай шляхты, якога сучасьнікі называлі «чалавекам з дыямэнтавым сэрцам»?

## Шляхціц, як усе астатнія

Казімер Лышчынскі, гербу «Корчак зьменены», нарадзіўся 4 сакавіка 1634 г. у фальварку Лышчыцы ля Берасьця ў сям'і мельніцкага падстолія Геранiма Казімера і Зафіі зь Бялынскіх. У 1658 г. распачаў вучобу ў кракаўскіх езуітаў. Праз год пераехаў у Каліш, дзе да 1664 г. прайшоў курс рыторыкі, лёгікі, фізыкі і мэтафізыкі, а ўжо ў 1665 г. быў памочнікам рэктара Берасьцейскага калегіюму. У наступным годзе вывучаў тэалёгію ў Львове. Не ўзабаве і зьдзейсьніў учынак, які будзе мець сур'ёзныя наступствы праз многа гадоў — выйшаў з «Таварыства Езуса». Вярнуўся на Бацькаўшчыну. Ажаніўся. Праз тры гады стаў мельніцкім падстолім. Браў удзел у сойміках ваяводзтва, у 1669 і 1672 г. абіраўся паслом на Варшаўскі Сойм, дзе быў электарам Міхала Карыбута Вішнявецкага, а потым Яна III Сабескага. Ваяваў з маскоўцамі, швэдамі, туркамі, за што Ян III Сабескі даў яму Прывілей на берасьцейскае падсудкоўства.

У 1682 г. берасьцейскі падсудак другі раз перабягае дарогу сваім былым братам, у якасьці «камісара ЯКМ» беручы ўдзел у нейкім судовым працэсе супраць езуітаў.

Лышчынскі шчыра і выконваў свой грамадзянскі абавязак — змагаўся ў шэрагах элітнай цяжкой кавалерыі крылатых гусараў, удзельнічаў у бітвах пад Хоцімам і Венай.

Але ж тут няма нічога асаблівага, бо тысячы шляхты акрамя таго, што пілі гарэлку, гулялі ў карты, бегалі за кабетамі, секлі адзін аднаго на сойміках і кантрактах ды ўчынялі ўсялякія шаленствы, — таксама ставалі «пад харугвы Бацькаўшчыны» і выконвалі свой «абавязак».

Так, Лышчынскі быў шляхціц, як усе астатнія, хіба што, у адрозьненьне ад пераважнай масы, ня мог проста верыць, але шукаў тлумачэньня сьвету — стан, які савецкая дасьледчыца ягонага жыцьця Я.Пракошына акрэсьліла як «новае адчуваньне сьвету».

## Забароны на шлюб

Новы канфлікт з царкоўнікамі выбухнуў у 1685 г., калі ён выдаў сваю дачку замуж за блізкага крэўнага Дабраніскага. Луцкі біскуп Ян Вітвіцкі ня мог пакінуць без увагі такое грэбаваньне касьцёльнымі прыказаньнямі, аб чым і нагадаў Лышчынскаму. А той у адказ напісаў, што касьцёльныя забароны на шлюбы паміж крэўнымі ня маюць значэньня, бо шлюб ёсьць саюз грамадзянскі, угавор сьвецкі. Справа скончылася 30 жніўня 1686 г. часовым адлучэньнем вальнадумцы ад Касьцёлу. Пры ўсіх гэтых дзівацтвах Лышчынскі карыстаўся вялікай павагай усёй берасьцейскае шляхты — быў чалавекам заможным, незалежным і меў сьмеласьць займаць уласную пазыцыю, не зважаючы на незадавальненьне касьцёльных уладаў.

## Падступства

Прыкладна пад год 1673-ці Лышчынскі напісаў трактат «De non existencia Dei» («Пра неіснаваньне Бога»). І паклаў у шуфляду. Брацлаўскі стольнік Ян Казімір Бжоска, сябар дзяцінства Лышчынскага, карыстаўся поўным даверам апошняга і ўваходзіў у абмежаванае кола людзей, што ведалі пра такое радыкальнае сачыненьне. Ён і выкраў 15 сшыткаў сачыненьня «Пра неіснаваньне Бога» і кнігу пратэстанцкага тэоляга Альтстэда з паззнакамі на палях рукі самога Лышчынскага.

Як падае польскі гісторык Анджэй Навіцкі, першапрычынай даносу было тое, што Лышчынскі паспрабаваў атрымаць назад пазычаныя Бжоску грошы (каля 500—800 тыс. польскіх злотых, вялізазныя грошы, за іх, напрыклад, можна было б выставіць каней для ўсяго войска Вялікага Княства Літоўскага.) Бжоскі данёс, старыя ворагі-езуіты падхапілі.

## Шляхецкая салідарнасьць

Пры канцы 1687 г. кароль загадаў віленскаму ваяводу Казіміру Сапегу даставіць Лышчынскага ў распараджэньне віленскага біскупа Бжастоўскага. Тут жа адбыўся духоўны суд (ён больш нагадваў «ваенна-палявы») пад старшынствам інфлянцкага біскупа Мікалая Паплаўскага. Прысуд — сьмерць за абразу Бога.

Простая лёгіка касьцёльных уладаў дрэнна разумелася шляхтай, якая ў судовай справе над падсудкам убачыла не абарону Велічы Боскай, а наступ на свае правы. Прадстаўнікі Берасьцейскага ваяводзтва выказалі рэзкае незадавальненьне і падалі пратэстацыю, пасьля чаго віленскі біскуп атрымаў павестку Літоўскага Трыбуналу, каб растлумачыў парушэньні права «neminem captivabimus», паводле якога шляхціц карыстаецца недатыкальнасьцю да таго моманту, пакуль не даказаная яго віна. У выніку рашэньне духоўнага суду страціла сілу, і справа перайшла да Сойму, што засядаў у Горадні з канца студзеня 1688 г., але да яе абмеркаваньня тады не дайшло — 5 сакавіка Сойм сарвалі.

Справа завісла.

Лышчынскі сядзеў у сваім маёнтку. У красавіку быў на споведзі і прыняў удзел у Сьвятой Камуніі. Берасьцейская шляхта працягвала прадпрымаць захады. Дэлегаты П.Пякарскі і П.Галемскі пабывалі ў Вілянаве, хадайнічаючы перад Янам III. 10 чэрвеня кароль даручыў далейшы разгляд справы Варшаўскаму Сойму. Толькі 31 кастрычніка падсудак быў адпраўлены ў турму.

Працэс пачаўся 15 лютага 1689 году.

## Страх

Інфлянцкі біскуп Мікалай Паплаўскі проста прапанаваў пацьвердзіць прысуд духоўнага суду ад 1687 г. Інстыгатар Вялікага Княства Літоўскага Шымон Куровіч Забістоўскі азнаёміў прысутных з Трактатам у сваім крытычным перакaзе. Асноўныя палажэньні гучалі так: у рукапісе, у якім 265 старонак, зьмешчаныя доказы паганскіх і іншых блюзьнерчых аўтараў, што адмаўляюць існаваньне Бога. Доказы канчаюцца высновамі: «ergo non est deus». Тыя словы былі напісаны і на палях кнігі пратэстанцкага тэоляга Альтстэда «Teologia naturalis». Акрамя ўсяго, інстыгатар прайшоўся і па поглядах Лышчынскага на сакрамэнт шлюбу.



Абвінавачаны прызнае, што Трактат належыць яму, пасьля чаго выступае з прамовай: «Веру ў Бога. Сябе лічу за ўбогае, беднае, нічога ня значнае яго стварэньне. У гэткім маім стане больш ня здольны адказваць, бо язык мой прылiпае да нёба, колам стае. Для таго малю Яго Каралеўскую Мосьць, каб мне ласкава рачыў даць абаронцу».

Просьбу не хацелі задаволіць, бо, быццам бы, цяжка знайсьці юрыста, здольнага бараніць атэіста. Лышчынскі бараніўся далей: «Веру, што Бог ёсьць: што тады напісаў, тое ня мне належыць; што напісаў, таго не прызнаю. Што другія напісалі, а я сабраў, тое замышляў абвергнуць у другой частцы працы і там выступіць з новымі доказамі быцьця Бога. Калі выражаўся: «мы атэісты», дык для таго, што ўяўляў разважаньні атэіста».

Просьбу пра адваката задаволілі 18 лютага. Адвакат Ілевіч адразу выказаў пратэст у сувязі з тым, што абвінавачаны быў пазбаўлены абаронцы ўвесь папярэдні час, а таксама ў чарговы раз пачаў гаварыць пра парушэньне права «neminem captivabimus». Пачаўся тлум. Кароль адклаў паседжаньне аж да 25 лютага.

Ілевіч імкнуўся ператварыць атэіста ўсяго толькі ў герэтыка, але інстыгатар Куровіч разгадаў няхітрую ўлоўку абаронцы: паміж герэзіяй і атэізмам — бездань. Герэтыкі адшчапіліся толькі ад Касьцёлу, атэісты — цалкам яго адкінулі. «Лышчынскі несумненна цьвёрды ў сваіх пераканаwhых. Ён напісаў у адным са сваіх уступаў: «Sicut ego nunc Deum non esse probo» (Паколькі, я лічу, Бог ня ёсьць добрым). Калі б меў намер абвергнуць такія палажэньні, папярэдзіў бы аб тым хоць адным словам. Не зрабіў таго. Багабойных разважаньняў, пра якія гаварыў абаронца, ніхто ня ведае, бо іх не знайшлі ў паперах». Інстыгатар згадаў у якасьці доказу блюзьнерства таксама той факт, што ў сваім тэстамэнце Лышчынскі на багабойныя справы завяшчае толькі тры флёрыны, а сваё цела не зямлі запавятаў, а на агонь...»

На наступны дзень прамаўлялі біскупы. Вось з кім цяжка было цягацца ў красамоўстве! Асабліва вылучыўся кіеўскі біскуп Андрэй Хрызастом Залускі. Менавіта яго страснае абурэньне парушыла раўнавагу бакоў: «Лышчынскі скардзіцца на парушэньні права, але... хто адмаўляе Бога, адмаўляе ўсялякую юрысдыкцыю, усялякае права». Не адставаў і кардынал-прымас Радзяёўскі, прапануючы, кабтыя лісты «спачатку тая няшчасная паліла рука, якая адважылася іх напісаць».

Лышчынскі бачыў, як агульны настрой зьмяняецца не на яго карысьць і пачаў страчваць прысутнасьць духу. У такім стане атрымаў апошняе слова. Дрыжучы, пыкаючы-мыкаючы, зноў пераконваў ён прысутных у сваёй невінаватасьці. І чым больш няшчасным выглядаў, тым мацней распаляліся ворагі.

Намаганьні адвакатаў захлыналіся ў хвалях моцнага абурэньня...

## Спаленьне

Далейшы лёс падсудка вырашалі галасаваньнем. Пісар літоўскі Андрэй Казімер Гелгуд спаслаўся на словы Сьв. Пісаньня: «Не хачу сьмерці грэшніка, але жадаю, каб жыў і навярнуўся». Смаленскі ваявода Стэфан Канстанцін Пясечынскі сьцьвярджаў, што Лышчынскі не заслугоўвае кары сьмерці, паколькі не ўпіраецца ў поглядах, ды і так ужо нацярпеўся. Але пры гэтым пры галасаваньні толькі адзін чалавек прапанаваў адаслаць вырашэньне справы да Рыма, амаль усе выказаліся за сьмяротнае пакараньне.

4 сакавіка Бжоскі і яшчэ шэсьць сьведкаў прысягнулі, што абвінавацілі Лышчынскага не са злобы, не ўтаілі нічога, што магло б служыць да зьмякчэньня яго віны.

10 сакавіка ў касьцёл Сьв. Яна прывялі дрыжачага ўсім целам і ўжо не падобнага да сябе «Чалавека з дыямэнтавым сэрцам», дзе ён публічна пакаяўся і адрокся ад атэізму. Нягледзячы на гэта, 28-га таго ж месяца абвесьцілі прысуд. Лышчынскага мелі вывезьці з гораду і спаліць жыўцом разам са сваімі творамі ў руках. Маёмасьць канфіскоўвалася — палова Бжоску, палова скарбу... Пасьля прачытаньня прысуду «берасьцейскі монстар» упаў на калені і са сьлязьмі пачаў маліць аб тым, каб не прымушалі паміраць такой доўгай і пакутлівай сьмерцю. Кароль ня здолеў адмовіць няшчаснаму падсудку прыняць сьмерць, якая б ня ганьбіла яго шляхецкую годнасьць — ад мяча. Хутчэй за ўсё, на прыняцьце гэтага рашэньня паўплывала неспадзяваная падтрымка просьбы біскупамі Вітвіцкім і Паплаўскім.

30 сакавіка Лышчынскі ўзышоў на эшафот... Пасьля адсячэньня галавы цела вывезьлі за горад і спалілі. Разам зь целам спалілі і трактат.

Мы ня можам сёньня меркаваць пра ступень вінаватасьці Лышчынскага, бо не існуе corpus delicti, а тыя пяць фрагмэнтаў, што знойдзеныя і надрукаваныя ў Польшчы ў 1957 г. Анджэем Навіцкім, не даюць падставы назваць Трактат, дакладней, тое, што засталося, «арыгінальным філязофскім творам». Паказальна толькі, што калі ў XVI ст. у Вялікім Княстве Літоўскім пераканаўні чалавека зьяўляліся яго ўласнай справай (прыгадаем сябра Сьцяпана Батуры, гарадзенскага ваяводу-атэіста Каспера Бекеша, ці мазырскага земскага судзьдзю Сьцяфана Лавана), дык у XVII-м у Рэчы Паспалітай пераканаўні маглі каштаваць галавы. ■

*Пра памерлых, як і пра жывых, ні добра, ні дрэнна, а толькі праўду.

# СТАГОДЗЬДЗЕ БЕЗ МАСТАЦТВА

Сяргей ХАРЭЎСКІ

Пачатак наступнага стагодзьдзя Менск сустрэне з трыма новымі помнікамі дзеячам беларускае культуры: Эўфрасіньні Полацкай, якую днямі паставілі ў двары БДУ, Францішку Скарыну і Адаму Міцкевічу, якіх яшчэ адліваюць у бронзу... Гэтыя постаці пазначаюць тыя вяршыні нацыянальнага даробку, якія пераўзыходзяць і нашыя межы, і свае эпохі. Парадокс, але менавіта гэтак беларуская культура XX ст. вітае наступнае тысячагодзьдзе, быццам бы нічога не прапануючы туды ад сябе, ігнаруючы ўласны плён ва ўласным часе.

Выходзіць, тое, чым Беларусь вылучаецца ў сусьветнай культуры, было створана нашмат раней. З чым у XX ст. можна параўнаць ансамбаль Нясьвіжу, першага баракальнага гораду ў сьвеце, альбо з цэрквамі-крэпасьцямі, аналягаў якім не знайсьці?

Лепшае ж, што было створана ў мастацтве й дойлідзтве нашага веку, стварылі людзі, што нарадзіліся і ўзгадаваліся ў стагодзьдзі XIX-м... Булгак і Малевіч, Жалтоўскі й Лангбард, Дубейкаўскі й Драздовіч, чые творы застануцца клясыкай, належаць зусім не таму часу, у якім жылі мы.

Калі жылі мы, нашыя архітэктары й мастакі толькі абслугоўвалі соцыюм. І ўрэшце адсталі ад яго. Цяпер яны зь цяжкасьцю шукаюць новых формаў, ізноў спрабуючы падладзіцца пад публіку ці заказчыка. Архітэктары — пад густы тых, хто замаўляе асабнякі, мастакі — пад тых, хто купіць чым даражэй...

Клясык беларускага авангарду Ўладзімер Цэсьлер, які калісь намаляваў славуты плякат з расейскім арлом, што ападае, нібы збуцьвелы ліст, цяпер стварыў выставу «Дванаццаць з дваццатага», у памяць пра мастакоў стагодзьдзя. Дванаццаць розных з выгляду яек сымбалізуюць розных мастакоў. Дасьціпна. І абавязкова нехта ўсё гэта набудзе. Дарэчы, сярод яек, зь якіх склалася выстава, не знайшлося і аднаго беларускага. Хоць бы й самога Цэсьлера. Гэткім чынам ён сам выкрэсьлівае і самога сябе, і беларускае мастацтва з усялякіх кантэкстаў. А на выставе было багата людзей. І яны ведалі, хто такія Далі і Мандрыян, Уоргал і Міро! Посьпех выставы — ілюстрацыя таго, дзе ёсьць месца нашаму мастацтву нашага стагодзьдзя. Нідзе... Прынамсі, не ў публічнай сьвядомасьці.

Перад нашай культураю паўстае праблема, як зрабіцца патрэбнаю. Як былі патрэбныя кнігі Скарыны й Міцкевіча, сармацкія партрэцікі ў любым засьцянковым дамку, альбо пісаныя абразы ў кожнай хаціне... І ўжо пэўна ня ў тых формах, у якіх наша культура існавала дагэтуль, адлюстроўваючы магчымасьці й жаданьні савецкіх беларусаў.

Зрэшты, культура ня можа залежаць толькі ад нашых жаданьняў або ад спрыяньня ці неспрыяньня дзяржавы. Яна і сама набывае іншыя формы. Па-іншаму сёньня гучыць і сам тэрмін «беларуская культура». Мастак Поклад жыве ў Вільні, мастак Тарасэвіч у Валілах, мастак Задорын у Ліёне... Іхныя працы можна пабачыць у Інтэрнэце. Іх творы куплюць у Нямеччыне і Францыі, у Польшчы й Скандынавіі. І ведаюць, што яны беларусы. І шануюць іх. Бо яны пераўзышлі сябе й тыя межы, якія ім нібы вызначылі тут.

Зь іх пачнецца беларускае мастацтва новага тысячагодзьдзя. ■



Bruno Stefani. Статуі і каналы парку "Прата дэля Вале" ў цэнтры Падуі

# ЭКСПАНСІЯ ІТАЛІІ Ў ВІЛЬНЮ

Чарговая выстаўка фатаграфіі прыехала з Італіі і заняла памяшканьні Палацу работнікаў мастацтваў, што ў Віленскай ратушы. Цэнтар фатаграфіі Алінары прадставіў выставу «Італія: адна і адзіная». Гэтая вандроўная выстава пачала свой шлях у 1997 годзе з Флярэнцыі і аб'ехала Італію, сталіцы Эўропы і Лацінскай Амэрыкі, а ў 2001 годзе наведае ЗША і Японію. 240 лепшых каляровых і чорна-белых фотаздымкаў 140 найвыдатных фотамастакоў у 22 тэматычных разьдзелах: Антон'ё Мільёры, Мар'ё Джакамэльлі, Міма Ёдычэ, Гіры, Франка Фантана, Джалі даюць магчымасьць убачыць Італію, пачынаючы зь першага аўтамабіля і Бэніта Мусаліні да гоначнага «Ferrari», мадэляў Вэрсачы, а паміж усім бясконцыя краявіды зь вінаграднікамі, морам, гарадамі і макаронай. Клясыкі эўрапейскага фота Джон Філіпс, Анры Карт'е-Брэсон, Альфрэд Айзэнштад таксама гасьцявалі тут і пакінулі выдатныя фотаўспаміны. Дарэчы, і ў гісторыі беларускае фатаграфіі ёсьць цэлая плойма майстроў, што здымалі ў Італіі — ад Зыгмунта Чаховіча й Бэнэдыкта Тышкевіча, пра якога мы нядаўна пісалі, да нашых сучасьнікаў Міхала Баразны і Алены Адамчык, чые італьянскія здымкі шматкроць друкаваліся ў нашай газэце.

**Дзяніс Раманюк**

ліст у рэдакцыю

# Год нашага жыцьця

*Магілы, магілы... Сьвежыя, высокія, нізкія, роўныя зь зямлёй. Сосны, бярозы, кусты бэзу, зарасьнікі дзікай травы. І крыжы, крыжы... Розных памераў, а цяпер і зробленыя з жалеза. А навошта? Хіба патрэбна на той сьвет? Усё б лепей з дрэва, напрыклад, з дубу — ніякія гады яго не бяруць.*

*Звычайны вясковы пагост... Месца яшчэ многа, а паміраць ужо, можна сказаць, няма каму. У вёсцы адна хата. У хаце адна баба. Хаты пустуюць, а то і разваліліся зусім.*

*Пра працу гаварыць не прыходзіцца — толькі для сябе. А ў каго яшчэ сілы ёсьць — для дзяцей, унукаў. У горад, у горад... Дый то рэдка. Хіба ўвосень — штонебудзь. Адкуль жа браць? Хіба пэнсія?! Вось яна ўся і адпраўляецца ў горад. Ды і якая яна, тая пэнсія! Так... Адзін сьмех... А бяруць? І ня толькі бяруць, а з рук вырываюць.*

*З каго ж бяруць? Са старых!!! Ім яшчэ трэба пакланіцца да зямлі, што сябе дагледаюць і другім спагадаюць, на дзяржаўныя дамы прытулку не завідваюць. Колькі ж яшчэ такіх стойкіх і цягавітых засталося ў вёсках, асабліва пэрспэктыўных? (І хто прыдумаў такое слова???) Паводле апошняга перапісу ў сельскай мясцовасьці засталося жыць 30% насельніцтва. Ну а з гэтых 30% колькі ж такіх людзей, якія хочуць і могуць працаваць? Аднаму* ***Богу*** *вядома.*

*Слабее падмурак... Што, слабее? Зусім аслабеў. Зьнясілеў чалавек, аддаў усё. Няма чаго аддаваць больш. Дзецям, унукам, гораду, дзяржаве... Адсюль цэны — вышэйшыя за чалавечы рост, недасягальныя, можна й не вывучаць — што і па чым. Свайго хлеба хутка ня купіш.* ***Дайшлі... Прыйшлі... Прыкаціліся...*** *Памінай добрым словам той час, калі былі сілы, і сам мог усё для сябе зрабіць.*

*А на дзень памяці ўжо і памінаць няма каму. Старыя, старыя... Больш жанчынаў. Мала сьвечак, ды многа сьлёз і цеплыні. Не забудуць нікога — усіх успомняць. Мала словаў — ды многа спагады. Усё па-людзку: бяз шуму выступленьняў, хвалебных «сьпеваў». Бліжэй да* ***Бога****, бліжэй да зямлі...*

*Памяць — рэдкая рэч у наш час, і дзе яна яшчэ засталася, дык ужо вельмі высокай пробы, на вагу золата.*

*Мозг сьвідруе думка: калі ж такое яшчэ існуе, дык і мы яшчэ жывем. Толькі трэба жыць, жыць!..*

*Навошта яно на той сьвет, тое жалеза? Ці тая агароджа? Якая і там не дазволіць душы высвабадзіцца з палону. Гарадзкія могілкі... Месца мала, а паміраць ёсьць каму. Гмах на гмаху. А кватэраў не хапае, і так усё жыцьцё. У старых і старэйшых яно было і не было: то вайна, разруха, голад. Тады вёска карміла горад, і ўсім усяго хапала.*

*А цяпер і тут слабее падмурак. Да чаго дайшлі? І сын можа забіць маці, і маці забівае сына. Дзе ж той* ***Бог****?*

*Вечная тэма: што і дзе купіць, каб дзешавей. А хто яго дасьць?* ***Вёска? Дзяржава?..***

*Тыя, што прывыклі жыць за наш кошт, не сьпяшаюцца пакланіцца сваім продкам да зямлі. Ніякай думкі, што трэба помніць, успомніць, думаць, жыць, жыць самім і іншаму не перашкаджаць.* ***багатыя... а за чый кошт?***

*Памяцьцю тут і ня пахла.*

*Мозг сьвідруе думка: калі нічога ня зьменіцца, калі людзі ня стануць* ***людзьмі*** *— быць нам порахам.*

**Алена Волкава,**
**вёска Ліпнякі пад Лоевам**

# СКАРЫНА І ДЫНАМІТ

Андрэй ДЫНЬКО

Вільня. 1519 год. Аўстэрыя «Два дубы». Францішак Скарына і брат ягоны Якуб. Якуб бярэ сушанага ляшча з кошычку на стале. Піва мутнаватае. Якуб змахвае з вусаў шум рукавом і расказвае пра Аршанскую бітву. Францішак пазірае на падораную брату кнігу «Юдзіф». Ляшчыная луска падае на саф'ян. Якубу хочацца спытацца, якой веры цяпер брат: рускай ці каталіцкай? Францішку прыносяць сыр на дошцы. Якуб едзе ў Каралевец па селядцы. Няўжо Францішак сапраўды з гэтых кніжок зарабляе? Францішак думае, што ў наступным годзе трэ будзе заскочыць у Полацак і нішкам забраць падораную «Юдзіф» назад. Бо так і так у ягонай сям'і ніхто чытаць ня будзе, а ў яго засталася толькі пара «Юдзіфаў». А трэба ж, каб у кожны кляштар, у кожны горад трапіла па адной. У аўстэрыі музыка і гул, тут паляць першы тытунь, цалуюцца за стаўпом і кідаюць косткі, фокусьнік махае хустамі. Якуб прысёрбвае ў апошні раз і дастае клумак з гасьцінцамі. З сумкі цягне скураю й дымам. На стол вывальваецца скрынка з шахматамі. «Малая падарожная кніжыца» — вось на што Бабіч дасьць грошы — кажа сабе Францішак. А як ня Бабіч, дык Онкаў з Адвернікам. Яна ня толькі акупіцца, але й прыбытак дасьць. Толькі ня ў Празе друкаваць, а тут, каб не вазіць. Але тут няма добрага станка. Дык хай дадуць грошы на станок. Тут! Каб у кожнай карчме ў якім халерным Прапойску ляжала. Прывезьці прэс і заваліць Літву Малымі падарожнымі кніжыцамі.

Апісаньнем сустрэчы Скарыны з братам у віленскай карчме можна было б пачаць хоць апавяданьне, хоць п'есу, хоць раман. Бо Скарына — гэта цяга да Захаду.

Ты бачыш Скарыну, бачыш гэтага чалавека лепш, чым бачыш сваіх калег. 400 гадоў — гэта павелічальнае шкло. Бачыш, як ягоная жонка-італьянка патрабуе грошай. Бачыш сына ягонага, Сымона, якому трэба большая кватэра ў Празе і новы капялюш. Адкуль гэткае бессаромнае пачуцьцё рэінкарнацыі? Найперш праз тое, што з кожным нумарам «Нашай Нівы», з кожнай валюмінай часопіса «Arche» перажываеш тую самую вострую ўзбуджанасьць ад нараджэньня ў галаве праекту, якое ня мог не перажываць кожны раз і Скарына. Творчасьць — такі наркотык, пасьля якога ўсе астатнія здаюцца проста мастурбацыяй.

З наступнага году часопіс «Arche» распачынае новы праект. Гэта будзе часопіс-месячнік. Ён будзе называцца «Скарына». Спачатку паўгоду ён будзе выходзіць асобным блёкам на старонках «Arche». Пасьля стане самастойным. Першы нумар ужо, лічы, падрыхтаваны.

Там будуць тэксты Вацлава Гаўла, югаслаўска-косаўскія варыяцыі паляка Чыжэўскага і беларуса Новікава, артыкул «Расея і свабода» Ўладзімера Роўды, рэцэнзіі Юрася Бушлякова на акадэмічны праект рэформы афіцыйнага наркамаўскага правапісу і Валеркі Булгакава на каляндар «Родны край». Там жа будзе анкета «Якой Вам уяўляецца будучыня славянскай ідэі ў будучай аб'яднанай Эўропе». Сярод тых, хто ўжо напісаў для яе — Зьбігнеў Бжэзінскі з Амэрыкі і Мікола Рабчук з Украіны.

Мы, стваральнікі «Arche», задумалі «Скарыну» як часапіс гуманітарнай думкі — рэцэнзіяў, аглядаў, эсэяў, артыкулаў. Вобразна кажучы, «Arche» — выданьне 1999 году, «Скарына» будзе выданьнем 2000-га. Хочам зрабіць першы ў Беларусі часопіс інтэлектуальнага чытва — дзе б зусім не было мастацкай літаратуры і навукі. І ніякага інтэлектуальнага касмаганізму. Абсалютова нармальны праект, максымальна адаптаваны да будучай постлукашэнкаўскай краіны, якой бы яна ні аказалася — беларускай ці зноў крыптабеларускай. Галоўнае, што «Скарына» будзе абсалютна пазбаўлены інтэнцыяў асьветніцтва.

З кайфам творчасьці можа параўнацца толькі кайф ад бачаньня плоду сьцёгнаў сваіх. І ты ўжо ўяўляеш сабе, як панясеш у «Цэнтральную кнігарню», што насупраць будынку КГБ, пад пабудаванаю на загад Цанавы вежаю, у адной руцэ пакунак тоўстага блюзьнерскага «Arche» з голай бабаю на вокладцы, а ў другой — пачак тонкага, нават сказаў бы — вытанчанага «Скарыны». І ажно складзеш сам сабе граматычна правільную фразу: «Я нясу дынаміт беларускага слова ў дзьвюх руках». ■

# МАЕ БІБЛІЯТЭКІ

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

Бібліятэкі — гэта соты цывілізацыі. А найвышэйшая місія на сьвеце — стацца пчалой.

Лепшыя часы майго дзяцінства прайшлі ў менскіх бібліятэках. Ня ведаю, ці захавалася на сёньня былая сыстэма бібліятэк пры домакіраўніцтвах: звычайная хрушчоўская кватэра на першым паверсе, бібліятэкарка-пэнсіянэрка, зашмальцаваныя кніжкі, пераплеценыя ў аднолькавыя кардонныя вокладкі цёмна-сіняга ці гарчычнага колеру, а дэфіцытная літаратура прыхаваная для знаёмых. Зь пяці гадоў я набыла статус «запісанай у бібліятэку».

Але адной бібліятэкі мне было мала. Адначасова наведвала дзьве-тры. Акрым домакіраўніцкіх, хадзіла і ў цэнтральную дзіцячую бібліятэку, тую, што непадалёк ад жоўтага будынку КГБ. Побач зь бібліятэкай, ля суседніх манумэнтальных дзьвераў, вісела шыльда — «Галоўнае ўпраўленьне па ахове дзяржаўных тайнаў у друку». Дасюль не магу пазбавіцца падазрэньня, што такое суседзтва мела выхаваўчы падтэкст.

Я брала чатыры-пяць кніжак і не супакойвалася, пакуль не прачытвала іх усе запар. Дзень, два, тры... Да цемры ў вачах. Больш помню прачытанага, чым сапраўдных падзеяў. У кнігах была воля і пошук таямніцы... Не, не дзяржаўнай. Проста — таямніцы.

Ад тых часоў дзіцячых бібліятэк застаўся ў мяне трывалы стэрэатып — цікавая кніга павінна быць зашмальцаванай, з махрыстымі па краях старонкамі, з сьлядамі ад ежы.. І я амаль інстынктыўна прыводжу ў такі стан свае ўлюбёныя кніжкі. Яшчэ адзін стэрэатып — ежа не смакуе, не спалучаная з працэсам чытаньня.

Менавіта там, у цэнтральнай бібліятэцы, я ў першы — і, па-мойму, у апошні раз, сутыкнулася са спробай выхаваўчай працы з боку бібліятэчнага мэтадыста. Мне было прыблізна гадоў дзесяць. Ва ўсіх «ахопленых» мною бібліятэках супрацоўнікі досыць нэйтральна ставіліся да майго паглынаньня кніжак. Але аднойчы каля бібліятэкаркі, якая цярпліва перапісвала абраную літаратуру, аказалася цётка, якая перагарнула некалькі разоў маю абанэмэнтную кніжку і сурова пацікавілася, ці я праўда прачытваю ўсе гэтыя кнігі? І пра што напісана, напрыклад, вось у гэтай, якую я сёньня здавала? Я нецярпліва паціснула плячыма, уся ў прадчуваньні хвіліны, калі грымнуся дома на канапу з чарговым томікам, але цётка працягвала сваю працу. Яна зноў-такі сурова спытала, чаму я, такая вялікая дзяўчынка, чытаю казкі. Трэба браць іншыя кніжкі, карысныя: напрыклад, Паляжаевай ці пра піянэраў-герояў.

Дасюль, замест такіх дыскусіяў, як і тады, моўчкі бяру тое, што мне трэба, і сыходжу.

Наша хатняя бібліятэка складалася са збракаваных тамоў, некалі вынесеных бабуляй пад час працы ў друкарні «Чырвоная зорка». Падбор што трэба: савецкі шпіёнскі раман «Над Цісай», «Месячны камень» Уілкі Колінза і «Джэйн Эйр» Шарлёты Брантэ. А галоўнае — «Прыгоды Мюнгаўзэна» і «Залаты ключык» у перакладзе на беларускую мову. Плюс падручнікі майго стрыечнага брата, які паступаў ва ўнівэрсытэт вывучаць марксісцка-ленінскую філязофію і жыў у нас на кватэры. Да пятае клясы я адолела «Уводзіны ў марксісцка-ленінскую філязофію», зь якіх найбольш спадабаліся тлумачэньні пра суб'ектыўных і аб'ектыўных ідэалістаў (цытатамі зь якіх я «забівала» школьных настаўнікаў) і разьдзел пад крамольным назовам «Унутраныя супярэчнасьці сацыялізму». Апошні разьдзел увогуле стаўся маёй салодкай таямніцай, падставай для мары пра ўвасабленьне подзьвігаў герояў-рэвалюцыянэраў у новых часавых абставінах. Я нават зьбірала зьвесткі пра падпольныя крамы і атэлье для абслугоўваньня партыйнай эліты... Марыла пра падпольны гурток... Але гэта было, зразумела, пазьней, у пару юнага нігілізму.

А хатняя бібліятэка папаўнялася. У асноўным — праз таварыства кнігалюбаў. На працы разьмяркоўваліся дэфіцытныя кнігі, людзі цягнулі талёнчыкі — каму пашчасьціць.

Аднойчы трапіла я і на падпольны кніжны рынак. Ён знаходзіўся на адной са станцыяў прыгараднай электрычкі, дакладней, між дзьвюма станцыямі. У прызначаны час вагоны электрычкі напаўнялі асобы маладога і сярэдняга веку са сьлядамі незапатрабаванага інтэлекту на тварах, зь цяжкімі сумкамі. Яны не размаўлялі адзін з адным і ўвогуле рабілі выгляд, што ні з кім тут не знаёмыя і едуць да бабулі ў калгас. Але па выйсьці на прыгарадныя прасторы, за пару кілямэтраў ад станцыі, на шырокай паляне, схаваная з усіх бакоў кустамі, яны пераўвасабляліся. На траве расьсьцілалі цыраты, раскладвалі кнігі. Абліччы завастраліся, вочы загараліся... Ніхто не гаварыў пра грошы. «Пяць» значыла — пяць рублёў, «трыпяць» — тры рублі пяцьдзясят капеек. «Я зьбіраю Брэдбэры»... «Я зьбіраю Гэмінгуэя...» «Сем-пяць...» «Пятнаццаць...» І празь якую гадзіну палянка з прымятай травой заставалася нявінна бязьлюднай.

Сёньня я амаль не хаджу ў бібліятэкі. Хіба толькі на сустрэчу з чытачамі. Бібліятэкі страчваюць свой таямнічы арэол і значэньне... А можа, гэта толькі для мяне?.. Можа, мне нецікава проста таму, што дзесьці там, на паліцах, згубленая і мая кніжка, і што няма ні ў адным з тамоў дзяржаўнай таямніцы, якая б, знойдзеная мною, перамяніла б наш сьвет? ■

*Пачатак 70-х. У маёй хатняй бібліятэцы ў вёсцы, акрамя школьных падручнікаў, усяго толькі дзьве мастацкія кніжкі — «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра і «Мы з Санькам у тыле ворагу» Івана Сяркова. Рабінзонаў вымяняў у суседа за ўкрадзены ў бацькі сьцізорык, а пра Саньку купіла ў Гарадку мама. І я мару пра бібліятэку, як у калгасным клюбе. І тут на табе — прыходзіць мама і кажа: «Наш прадсядацель зьяжджае і нам аддае газавую пліту, этажэрку і кучу кніжак...» І цэлых паўдня я насіў дахаты тыя кніжкі, ня ўчытваючыся ў іх назвы. На этажэрку ўсе ня ўлезьлі. Астатнія занёс на гарышча. І вось стаў чытаць. Ніводнай мастацкай, а адны выступленьні Сталіна, Хрушчова, Брэжнева, матар'ялы партыйных зьездаў, пленумаў і т.д. Ды ўсё ж бярог я гэтыя таміны і гартаў іх з пачатку ў канец, з канца ў пачатак, спадзеючыся натрапіць на тое, пра што марылася. А мой бацька паціху лазіў на гарышча і маім «скарбам» распальваў печ.*



Фота Ўладзімера Карашкова

# БЫЛА Ў МЯНЕ БІБЛІЯТЭКА...

Віктар ШНІП

У калгасным клюбе ў бібліятэцы зьбіраліся хлопцы і дзяўчаты часьцей за ўсё не каб нешта пачытаць, а каб выпіць. У такія дні бібліятэка была зачыненая і я, пастаяўшы ля дзьвярэй, вяртаўся да сваіх «рабінзонаў» і «тылу ворагу». Мама нават пакрыквала: «Чаго гэта ты ўсё цягаесься ў тую бібліятэку? Мала табе кніжак ад прадсядацеля?» Мала... Мне хацелася мець Свае. І я пачаў паціху выкупляць у сяброў кніжкі. У каго за бацькавы цыгарэты, у каго за сьцягнутую з дому самагонку. Аднак мая бібліятэка зьбіралася вельмі марудна. І тут мне Памідорчык — мой аднаклясьнік Сашка — параіў украсьці з калгаснай бібліятэкі пару кніжак, якія мне найбольш хочацца мець. А ў мяне на той час не было ніводнай кніжкі вершаў. І пайшоў я з Сашкам на злачынства. Пакуль мой сябар размаўляў зь бібліятэкаркай, я ўзяў з паліцы зборнік вершаў Міхася Чарота і схаваў за пазуху. На большае не адважыўся...

У канцы 70-х калгасную бібліятэку з клюбу перавезьлі да Вярбіцкай, якая жыла адна ў вялікай хаце. Прыяжджаючы зь Менску, я забягаў у гэтую бібліятэку. Бібліятэкарка, жанчына адукаваная, ведала ўсё, што ёсьць у яе гаспадарцы, і спэцыяльна да майго прыходу падбірала выданьні, якія могуць мяне зацікавіць. Усё ў бібліятэцы было добра летам, а восеньню пацякла страха, і затапіліся кніжкі.

Заходзячы ў вёсцы ў хаты сяброў, як п'яніца, які тут жа вынюхвае выпіўку, я шукаў месцы, дзе могуць быць кніжкі. І часьцей за ўсё, акрамя газэт, у хаце не было чаго чытаць. Людзям было не да кніжак. І ўсё ж трапляліся дзівакі (чамусьці іх называлі дурнямі) і ў нашай вёсцы, якія, нават пасучы кароў, бралі з сабой кніжку.

Мой дзядзька Славік, набадзяўшыся па сьвеце, вярнуўся на нейкі час у Пугачы да бацькоў. Сышліся суседзі, каб паглядзець, якога гэта ён багацьця навёз цэлую машыну. І калі ўбачылі, што выгружаюцца кніжкі, пасьмяяліся і разышліся. Адзін я быў задаволены — дзядзька дазволіў мне тое-сёе выбраць сабе. І гэта была кніжка пра Гулівэра...

Прыязджаўшы ў Менск і ня маючы на кніжкі грошай, я хадзіў па кнігарнях і там іх чытаў. Асабліва добра атрымоўвалася з паэзіяй. У гарадзкую бібліятэку запісацца ня мог, бо ня меў менскай прапіскі. Аднак у мяне былі сябры, якія мелі цудоўныя хатнія бібліятэкі і якія не шкадавалі даць пачытаць кніжку. Адным з такіх быў Адам Глёбус. У мяне і цяпер перад вачыма стаіць зборнік вершаў Апалінэра, і жыве ўва мне тое адчуваньне сьвету і Эўропы, якое тады мне адкрылася.

Адзін з маіх сяброў, закончыўшы філфак, нейкі час працаваў вясковым бібліятэкарам. Можа б і сёньня працаваў, калі б не было сям'і, якую трэба карміць. А так чытачоў у яго было мала — амаль адны школьнікі, і то ў час вучобы. Аднак не шкадуе, што быў бібліятэкарам, бо начытаўся, як прафэсар.

На сваёй юбілейнай вечарыне Максім Лужанін з вышыні сваіх 90 гадоў сказаў: «На пачатку стагодзьдзя ў нашых бібліятэках беларускіх кніжак можна было пералічыць на пальцах. Цяпер у нас ёсьць свае слоўнікі, энцыкляпэдыі — усё, што трэба, каб беларусы адчувалі сябе нацыяй, таму Беларусь жыла, жыве і будзе жыць».

Больш за дзесяць гадоў мінула, як я апошні раз быў у калгаснай бібліятэцы. І цяпер наагул ня ведаю, ці ёсьць яна ў вёсцы? Тэлефаную ў Пугачы знаёмаму: «Ці ёсьць там цяпер у нас бібліятэка?» І чую: «Якая бібліятэка...» і далей нецэнзуршчына. І ўсё-ткі спадзяюся, што нешта засталося... ■

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Беларуская мова**: Падручнік для 10—11-х клясаў агульнаадукацыйнае школы з расейскаю моваю навучаньня / В.Несьцяровіч, Л.Васюковіч, Г.Арцямёнак, Л.Злобін, Я.Марозава. — Менск: Народная асьвета, 1999. — 271 с. — Наклад 166 000 ас. ISBN 985-034-0964-4

А.Копас, С.Цыбульская. **Беларуская мова**: Навучальны дапаможнік для абітурыентаў сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў. 2-е выд., перапрацаванае й дапоўненае. — Менск: Бэрвіта, 1999. — 128 с. — Наклад 4 000 ас. ISBN 985-6416-29-9

Л.Сямешка. **Беларуская мова**: Навучальны дапаможнік. — Менск: Сучаснае слова, 1999. — 224 с. — Наклад 6000 ас. ISBN 985-443-085-5

*Параджана Радаю філялягічнага факультэту БДУ для абітурыентаў і студэнтаў ВНУ.*

В.Шалькевіч. **Гісторыя палітычнай і прававай думкі Беларусі**: Навучальны дапаможнік / Сэрыя «Гісторыя Бацькаўшчыны», дадатак да часопіса «Права і эканоміка». 2-е выд. — Менск: 1999. — 200 с. — Наклад 250 ас.

Г.Лыч. **Інтэлектуальная дзірка**. — Менск, Арміта — Маркетынг, Мэнэджмэнт, 1998. — 208 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6320-47-X

*Аўтар у сваіх развагах шукае прычыны эміграцыі беларускіх навукоўцаў за мяжу.*

У.Некрашэвіч ды інш. **Малочная справа**: Навучальны дапаможнік / У.Некрашэвіч, М. Шашкоў, Л.Лазараў. — Менск: Ураджай, 1999. — 232 с.: іл. (Навучальныя дапаможнікі для сельскагаспадарчых вышэйшых навучальных установаў). — Наклад 1 000 ас. ISBN 985-04-0425-6

**Тэорыя й практыка беларускае тэрміналёгіі** / І.Арашонкава, А.Булыка, У.Люшцік, А. Падлужны; Навуковы рэдактар А. Падлужны. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 175 с. — Наклад 350 ас. ISBN 985-08-0317-7

*Спроба комплекснага разгляду стварэньня беларускае навуковае тэрміналёгіі. Шмат увагі надаецца аналізу характару словаўтварэньня ў розныя пэрыяды разьвіцьця беларускае мовы. Грунтоўна аналізуюцца апошнія працы ў гэтым кірунку.*

У.Рэпенка. **Тэставыя заданьні зь беларускае мовы для вучняў старэйшых клясаў і абітурыентаў**. — Менск: Паліграфмаркет, 1998. — 384 с. — Наклад 10 000 ас. ISBN 985-6359-17-1

Г.Чарказян. **Камни печали**: Навэлі. Пераклад з курдзкае Ў.Машкова і М.Наталіч. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 312 с. — Наклад 1200 ас. ISBN 985-02-6413-3

*«Глыбокае асэнсаваньне рэчаіснасьці і адвечная туга па гістарычнай Радзіме» курдзкамоўнага аўтара спатыкаюць разуменьне ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» (Дарэчы, сп. Ганад там працуе).*

**Кнігі чытаў Віктар Мухін**

# СОН ЗЬВЯРОЎ

Вадзім КАРЦАЎ

Сон — у гэтым прыемным занятку праходзіць крыху болей ці меней за траціну нашага жыцьця. І гэта ня марная згуба часу — адно праз сон спраўляецца пэўная частка неабходных фізіялягічных і фізічных патрэбаў арганізму.

У старажытным Кітаі па тым, як хто сьпіць, навучыліся вызначаць пэўныя рысы характару асобы і нават ейную адпаведнасьць ці неадпаведнасьць сацыяльнаму стану. У сучасным сьвеце ўсё перавярнулася, і ўжо ня поза таго, хто сьпіць, гаворыць нешта пра яго, а проста звычайны здаровы сон стаў закладнікам пазыцыі чалавека ў грамадзтве. Думаецца, багата хто з нашых бізнэсоўцаў, палітыкаў і журналістаў — ды каму цяпер спакойна? — круцяцца ноччу ў ложку, лічаць авечак, глытаюць барбітураты, бо ня ў стане забыцца на дзённыя справы. Нехта наогул амаль ня сьпіць, асабліва пасьля 20 ліпеня — шэры твар, мяшкі пад вачыма, схуднеласьць сьведчаць на тое беспамылкова. Што зробіш... Як той казаў, кожны — гаспадар свайму лёсу.

А як распараджаюцца гэтым каштоўным дарам тыя, у каго няма ніякага дзела, каму клопату — адно есьці ды памнажацца — маю на ўвазе жывёлаў. Вось колькі прыкладаў дзіўных, забаўных, нязвыклых спосабаў справіць сабе адпачынак.

## Майстры сну

Хто ў паўдзённай сьпёцы афрыканскай саваны ўбачыць ільва, які сьпіць наўзнак дагары лапамі, можа высновіць з заміланьнем: дзікі зьвер, а лагодны, роўна хатні кот. Але гэта толькі ўражаньні. Яшчэ ангельскі пісьменьнік XVII ст. Thomas Campion запытаў: «Хто адважыцца дражніць ільва, які сьпіць?» Дзякуй Богу, гэтаму грознаму драпежніку, каб выспацца, трэба сама мала 20 гадзін на суткі, а то пешыя падарожжы па самым цёплым кантыненце сталіся б праблематычнымі.

Сонная туатара, вялізная яшчарка родам з Новай Зэляндыі, знаходзіцца ў стане лёгкае дрымоты «ўсяго» якіясь паўгады. Тады яна такая млявая, што засынае нат падчас трапэзы. І такі даўгі сон робіць ёй добрую службу — паводле назіраньняў вучоных, некаторыя асобнікі туатары дажываюць да 100 гадоў!

Іншыя зьвяры западаюць у сьпячку на тыдні й нават месяцы, каб ператрываць маразы. Барсук, мядзьведзь, рыхтуючыся да зімы, запасяць пад скурай аграмадны слой тлушчавае тканкі, якая будзе спажыўленая пад час сну ў нары ці барлогу. А што іх ратуе ад замярзаньня? Аўтары кнігі «Inside the Animal World» («У сьвеце жывёлаў») тлумачаць, што мозаг зьвярыны пры ахаладжваньні цела да пэўнай мяжы ініцыюе зьмяненьне хімічнага складу крыві. Паралельна «антыфрыз» запаволвае рытм сэрца й подых, уласна з-за гэтага жывёла й сьпіць.

## Сон пад час лёту

Нейкія з божых стварэньняў вымушаныя адпачываць у надзвычай нязручных умовах. Чарнасьпінная чайка — акіянічная птушка — пакінуўшы гняздо, ляціць у бок вады й можа гадамі (!) не вяртацца на бераг, палюючы на паверхневых рыбаў. У адрозьненьне ад іншых чаек, чарнасьпінная ня мае непрамакальнага апярэньня, каб сесьці на ваду, і перапонак між пальцаў, каб па вадзе разагнацца ды ўзьляцець.

Калі ж яна сьпіць? У кніжцы «Water, Prey, and Game Birds of North America» («Водныя, драпежныя й паляўнічыя птушкі Паўночнае Амэрыкі») гаворыцца: «Малаверагодна, каб чарнасьпінная чайка спала на паверхні акіяну, бо тады намоклі б ейныя пёры. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што гэтыя птушкі сьпяць пад час лёту, балянсуючы ў патоках цёплага паветра».

## Падводная сыеста

Ці рыбы сьпяць? Паводле «The World Book Encyclopedia» (Энцыкляпэдыя «Кніга сьвету») з усяе фаўны «толькі гады, птахі й сысуны сьпяць па-сапраўднаму, са зьменамі фазаў мозгу». Але й рыбы — хоць большасьць зь іх ня могуць замыкаць вачэй — маюць пэрыяды адпачынку.

Частка рыбаў робіць гэта на баку, іншыя дагары брухам або ў пазыцыі піёна. Камбала ў часе актыўнасьці перабывае на самым дне мора, а адпачывае мэтрам вышэй.

У каляровай рыбы-папугі адыходу да сну папярэднічае цікавы рытуал — надзяваньне «начной кашулі». Калі надыходзіць час адпачынку, тая рыба выдзяляе сьлізь, што спавівае ейнае цела. Зь якой мэтай? «Магчыма, дзеля засьцярогі ад нападу драпежнікаў», — цывердзіць памянёная энцыкляпэдыя. Па прачынаньні рыба-папуга высьлізгвае з абаронная футаралу.

## З расплюшчанымі вачыма

У жорсткім сьвеце дзікай прыроды толькі й пільнуй, каб ня зжэрлі, таму сякія-такія зь істотаў нават сьпяць з расплюшчанымі вачыма. Іхны мозаг пад час сну захоўвае пэўную актыўнасьць, што дапамагае рэагаваць на кожны рух, засьцерагаючыся ад небясьпекі.

Птахі, што жывуць грамадамі, калі сьпяць, з пэўнай пэрыядычнасьцю расплюшчваюць вочы, каб хутка адсканаваць навакольле. У сукупнасьці, у любы момант чарада мае хаця б пару вачэй «на строме».

Гэтак сама супольна пільнуюцца афрыканскія антылёпы й зэбры. Цэлым статкам яны сядаюць на зямлю й трымаюць высока галовы. Праз колькі хвілінаў адна за адной ці па некалькі кладуцца на бок і выгодна выцягваюцца на зямлі на гадзіну-дзьве, пасьля чаго зноўку ўздымаюць галовы. І гэтак па чарзе, пакуль ня высьпіцца ўвесь статак.

Статкамі сьпяць і сланы. Дарослыя самцы звычайна стаяць і толькі дрэмлюць, пэрыядычна паглядаючы й настаўляючы вушы. Самкі пад надзейнай апекай могуць дазволіць сабе паспаць якую гадзінку, але таксама стоячы. А малыя сланяткі спакойна валяцца на бок і глыбака засынаюць на некалькі гадзінаў. У кніжцы «Elephant Memoires» («Успаміны слана») аўтарка Сынтыя Мос перадае ўражаньні ад сустрэчы з сонным статкам сланоў: «У месяцовым сьвятле гэта нагадвала поле, заваленае аграмаднымі шэрымі валунамі, якія... якія мерна храпуць».

Фота Войцэха Целяцінськага

## паштовая скрынка

**Яну Б. з Салігорску.** *У рубрыцы «Паштовая скрынка» мы зьмяшчаем ня допісы чытачоў, а адказы рэдакцыі. Напішыце ж пра тое, што «Касіянэры» ўжо зрабілі, а ня што зьбіраюцца. Дарэчы, адкуль Вы ўзялі гэтых «касіянэраў»? Хіба з даўняга верша Алеся Разанава, дзе «і» зьявілася для рыфмы? Але слова гэта беларускае, паходзіць ад «касы», якая была зброяй у руках паўстанцаў-касінераў.*

**Сержуку П. зь Берасьця.** *Гэткіх паседжаньняў па краіне было сто штук. Нам бы незвычайнага чаго!*

**Алесю Ц. зь Менску.** *На жаль, пакуль «10 вякоў беларускай гісторыі» нідзе купіць нельга. Абяцаюць прывезьці ў Беларусь у студзені.*

*Пра менскую грэка-каталіцкую парафію Сьв. Язэпа (айцец Андрэй) можна даведацца праз тэл. 243-63-95, 242-92-36.*

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ________________________________

________________________________

________________________________

Імя і прозьвішча ________________________________

Адрас, тэлефон ________________________________

## прыватныя абвесткі

**вітаньні**

**Дзядзька Аляксею!** Фальклёр хоць ёсьць падмуркам культуры, досьціпам і мудрасьцю, але часам набывае форму безгустоўнай самадзейнасьці

**Паважаны Мікола Дзямід!** Віншуем Вас з Калядамі! Пажаданьні і шчырасьць прымеце, каб здаровымі доўга жылі, няхай добра Вам будзе на сьвеце, Як на бацькавай роднай зямлі. З павагай Андрык і Алена

**Шаноўны Аляксей Місевіч!** Віншуем цябе з Калядкамі! Пажаданьняў у сэрцы так многа, іх ня выказаць, не пераслаць. Заставайся з Богам, жыць табе доўга і гора ня знаць! З павагай — Андрык і Алена

**Алесь Карніенка!** Ты малайчына — хай у новым 2000 годзе у Цябе будзе ўсё найлепей ад усіх. Разам мы пераможам! P.S. Дзякуй за падтрымку ўва ўсім

**Сястрычка!** З Новым годам — новым жыцьцём у старым месьце! Хай Табе пашчасьціць. Слухайся свайго сэрца — усё будзе ОК. Брацік. Жывом!

**Ірына з-пад** Берасьця. Ты яшчэ пра мяне не забылася? Я — не: з Новым годам. Табе зычу спраўджваньня ўсіх мараў і шчасьця. Віктар

**Макс!** Дзякуй табе за 1999 год — што быў з намі. Зь вераю ў наш шчасны Новы 2000 год і спадзяваньнем на шчырую й моцную дружбу. Віктусь, «РБ», «ННІст»

**Крысе!** Ты файны хлопец, але нарэшце вызначся — ці ты панок, ці чалавек. Ня можна ж быць гермафрадытам. З Новым цябе 2000 годам. Радавы чалавек

**Andreja vinšujem** z 20-hodździem i 2000-m hodam. Čapaj maładzic i hadujsia! Dziadźki

**Усім сябрам** і знаёмым ды выпускнікам і супрацоўнікам Беларускага гуманітарнага ліцэю зычу ўсякіх даброт у новым 2000 годзе! Вы — надзея нацыі. Доўгага Вам жыцьця й шчасьця! Віктар Мухін

**Эдвард!** З Калядамі! Жадаю, каб Вашае жыцьцё было падобным на казку!

**Усіх людзей** віншую з Калядамі! Зычу шчасьця і міру ў душах! Люблю Вас!

**Наталі!** З Калядамі, Новым годам! Шчасьця, вясельля, удачы, ня ведаць у жыцьці гора, нястачы. Я

**Раство Хрыстовае** — гэта цуд! Радуйцеся, людзі! Лепей за гэтае сьвята няма і ня будзе!

**Дасылаю віншаваньне** з Калядамі Раману, сапраўднаму беларусу з Салігорску! Твая менская сяброўка Ганна

**Сваіх бабульку** зь дзядулькам віншую з наступленьнем халодных рыпучых маразоў! Хведзя

**Віншуем сваю** любенькую мамачку-Волечку з калядкамі, блінамі ды аладкамі. Багда, Ганулька

**Віншую сваю даражэнькую сяброўку** Леніка з чыстым, пушыстым і доўгачаканым сьнегам! Усьміхайка-партызанка!!!

**Viciebskich bułachoŭcaŭ** vinšujem sa śviatami Božaha Naradžeńnia i Novaha Hodu. Żyvie Ajčyna!

**Vavioračka!** Vychodź za nas zamuž, Babior, Zajac (usie toŭstyja)

**Юныя Нахабныя** Эратычныя Ля-ля-пя віншуюць Андрэя Мялешку з Днём народзінаў. Будзь!

**Гандрусь!** Жадаю, каб доля не была сранай, а лёс — марным. Ганка з Пагулянкі

**Віншую ўсіх** добрых людзей з надыходзячымі сьвятамі, жадаю, каб наша мова была мовай міжнародных стасункаў

**Віншую беларусаў** усяго сьвету з Happy New Year. Жадаю, каб Беларусаў было ў наступным годзе значна больш — каб савецікусы сталі беларусамі

**Сьвятло любові** хай праменяць вашы сэрцы, хай душы ачышчаюцца ад бруду ў дзень Раства Хрыстова!

**Віншуем Толіка** і Галю з Новым годам і Калядамі. Здароўя і шчасьця. Цётка Алёна, дзядзька Андрэй

**Віншуем маці**, тату і Віталіка з Новым годам і Калядамі. Зычым вам усім здароўя, шчасьця і посьпехаў. Андрэй і Алёна

**Віншуем сяброў** Алёну і Міколу, Вэраніку і Уладзімера, а таксама Вову Ф. з надыходзячым Новым годам і Калядамі. Здароўя, шчасьця і посьпехаў усім вам. Андрэй і Алёна

**Віншую любую** жонку Алёну і цешчу Ганну Іванаўну з Новым годам і Калядамі. Зычу вам здароўя, шчасьця і каханьня. Андрэй

**Віншуем Аляксандра Еўдакімавіча і Галіну Мікалаеўну** з Новым годам і Калядамі. Андрэй і Алёна

**Віншую беларусачак** і беларусаў, дачок і сыноў Беларусі з надыходзячым Новым 2000 годам. Жыве Беларусь!





## Наша Ніва 90 гадоў таму

# Усяго патроху

*№51—52, 1909 год*

**Г.Радашковічы,** Віленск. губ. Вялейск. пав. Нядаўна два хлапцы, падпіўшы ў рэстаране, выйшлі на вуліцу і сталі чэпляцца да людзей. Каля млына так сама прычапіліся да аднаго і, схапіўшы яго за рукі і ногі, укінулі ў возера. Той нарабіў гвалту і яго выратавалі. Ідзе сьледства.

*Юзя*

**Слуцак.** Праз тутэйшы банк за гэты год з Амэрыкі прыслалі розныя людзі сваім родным 140 тысячаў рублёў грашэй, зароблёных у Амэрыцы.

**В.Пяцголі,** (каля Радашковіч), Віленск. губ. Вялейск. пав. У Казіміра Мацкевіча гэтым летам карова аб'елася канюшынай, і ўжо саўсім здыхала. Кінуліся на раду да аднэй пані; а тая дала ім кніжку — выданьне «Нашай Нівы» «Як ратаваць уздутую жывёлу». Павэдлуг гэтай кніжкі і рысунку, паказаным у ёй, прыкалолі карове прастым нажом бок і далі лякарства, якое там напісана. Карова зусім паправілася.

*Радашкоўская*

**Малая Раёўка,** Менск. губ. Слуцк. пав. Стаіць наша вёска на самым шляху. У ёй 40 гаспадароў, з каторых можа нойдзецца чалавек 5, каторыя б ня пілі гарэлкі. Самым большым нашым няшчасьцем ёсьць патайныя шынкі, каторымі займаюцца нашыя ж сяляне, шырачы ніколі не чуванае дагэтуль пьянства, — бо ўжо не ў карчме як даўней, але па хатах — п'юць і старыя, і малыя, і кабеты, і дзяўчаты. Як цяжка і сумна робіцца на сэрцы, калі глянеш на нашу вёску: кругом п'янства, разбоі, крадзяжы, і гарэлка, і гарэлка, а добрага нічога!

*Таркан Федзька*

**ідэі**

**У сувязі** з 10-годзьдзем ад прыняцьця Закону аб мовах ТБМ праводзіць 26 лютага **навукова-практычную канфэрэнцыю «Закон аб мовах — вынікі і пэрспэктывы»**. Тэматыка канфэрэнцыі ўключае наступныя аспекты: сацыялінгвістычны, нарматыўны, тэрміналягічны. Заяўкі на ўдзел падавайце да 15 студзеня на адрас: Менск, 220005, вул.Румянцава 13. Тэксты выступаў (да 5400 знакаў) дасылайце да 1 лютага. Даведкі праз т.: 284-85-11

**кнігі, музыка**

**Прадаю кнігу «Ля чужых берагоў»** — альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. (Мюнхен. Бацькаўшчына, 1955). Т.: (017) 254-34-57, Сяргей

**Прадаю кнігу Геніюш Л. «Споведзь».** (Менск: Маст. літ., 1993) Т.: (017) 254-34-57, Сяргей

**Новая кніга К.Тарасава** «Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей» — лепшы падарунак на 2000 год. Т.: 232-00-08

**«Калосьсе»** №7 (350 т.р.). Замова: Аляксандар Козік, а/с 12, Полацак, 211413

**Шаноўныя фэны беларускага року!** Калі Вы жадаеце набыць значкі рок-гурту «Ulis», калі ласка, тэлефануйце. 221-54-88 Саша, Жэня

**праца**

**Андрэй (30),** інвалід па слыху, шукае падзаробак. Можна за мяжой на кароткі час. Ведаю (пакуль недасканала) тарашкевіцу ды белпацінку, добра малюю. Т.: (0232) 53-89-17

**Дапамагу пачаць сваю справу** (не распаўсюджваньне). Даступна ўсім. Даход ад 200 у.а. Укладзіце капэрту са зв/а+ купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**Тым, хто выдае свае ўлёткі,** бюлетэнь, газэту, без карэктара не абысьціся — моўныя памылкі падрываюць Ваш аўтарытэт у чытача-патрыёта. Выпраўлю тарашкевіцу (можна й наркамаўку). Менск, вул. Усходняя, 38-91, т.: 231-40-80

**просьбы**

**Вельмі жадаю** мець Беларусь суверэннай краінай. Але... дапамажыце палячыцца за мяжой. Або падтрымайце матэрыяльна. 211840, Паставы, вул.Юбілейная, д.2, кв.24, т.: 2-43-70

**Людзі!** Дашліце, калі ласка, хто-небудзь, песьні «Народнага альбому» з акордамі. 222120, Барысаў, а/с 541

**шукаю працы**

**Водарамасажыстка шукае** сур'ёзную працу. Т.: 252-59-20

**Студэнтам і асьпірантам** дапамагаю з рэфэратамі, курсавымі па філязофіі, гісторыі, мастацтве, літаратуры. Т.: 253-65-81, Ганна

**Цікавыя заняткі** па ангельскай мове. Пераклады. Т.: 259-88-19. Тацяна

**Навучаю нямецкай мове.** Грунтоўна, нядорага. Т.(суседчын): 260-47-36. Паклікаць Раю

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў — **56 000** руб.,*
- *звыш 20 словаў — **78 000** руб.;*
- *па-мастацку аформленая аб'ява — **20 000** руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **44 000** руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. **Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**



Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3106. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 0:13, 27.12.1999 . Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 6653. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас Менск, Бабруйская, 19/36
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12